PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 4 (2072) ГОД XLI БЕЛАСТОК 28 СТУДЗЕНЯ 1996 г. ЦАНА 70 грошаў (7000 ст. зл.)

## Калі прыгажосць зачароўвае

**З Беластоцкім ваяводам АНДЖЭЕМ ГАЕЎСКІМ гутарыць АДА ЧАЧУГА.**

*— Спадар ваявода, Вы паходзіце з Варшавы, а ўжо амаль трыццаць гадоў жывяце і працуеце ў Беластоку. Як з пазіцыі варшавяніна ўяўляўся Вам воблік беларуса і які ён здаецца Вам цяпер?*

— У Беластоку я ўжо амаль трыццаць гадоў, гэта значыць, ад 1966 года, калі пачаў вучыцца ў Медыцынскай акадэміі. Вядома, будучы яшчэ ў Варшаве, я чуў, што на Беласточчыне побач з палякамі пражываюць беларусы, аднак няшмат пра іх ведаў. Толькі бліжэйшыя кантакты, ужо на студыях, дазволілі мне бліжэй з імі пазнаёміцца і зразумець іх. Ужо тады ў мяне было шмат сяброў-беларусаў.

Калі я працаваў у бальніцы, то пераканаўся, што значная частка персаналу, не гаворачы ўжо аб пацыентах, гэта таксама людзі, паходзячыя з беларускай нацыянальнай меншасці. На Беласточчыне ўсё гэта натуральнае. Але ўжо тады я зразумеў, што справы меншасцей гэта справы вельмі далікатныя.

*— Дык Вам і козыр у рукі тады, калі Вы сталі галоўным адміністратарам нашага ваяводства!*

— Яшчэ ў гэтым месяцы я маю намер назначыць упаўнаважанага па справах нацыянальных меншасцей. Пакуль што не хацеў бы гаварыць, каго маю на думцы. Але наогул справы, пра якія мы тут гаворым, гэта праявы штодзённага жыцця. Таму я і падыходжу да іх як да звычайных спраў, якія, побач з іншымі, запаўняюць будні ваяводы. Прымаю ўдзел у розных мерапрыемствах і пачынаннях, якія хвалююць беларусаў.

*— У апошні час беларусаў Беласточчыны, але не толькі іх, але і амерыканскіх, і з Беларусі, непакоіць лёс Беларускага музея ў Гайнаўцы. Усе яны доўгія гады давалі сродкі на гэту манументальную будоўлю і хацелі б мець усё-такі СВОЙ музей!*

— Якраз наконт музея будзем гаварыць на сустрэчы, якая адбудзецца ў маім кабінеце праз пару дзён, менавіта 15 студзеня г.г. Удзел у ёй возьмуць віцэ-маршал Сейма РП Уладзімеж Цімашэвіч, віцэ-міністр культуры і мастацтва Міхал Ягела, дырэктар Бюро па справах культуры нацыянальных меншасцей Міністэрства культуры і мастацтва Ежы Бісяк, а таксама бурмістр Гайнаўкі Ядвіга Рудзінская-Патэюк, прадстаўнікі Камітэта пабудовы Беларускага музея, Беларускага таварыства. Я ўпэўнены, што ў такім шырокім крузе зацікаўленых гэтай справай мы знойдзем нарэшце нейкае асэнсаванае выйсце. Музей павінен існаваць і бурліць жыццём, калі яго ўжо пабудавалі, зрэшты, таксама з немалымі дзяржаўнымі датацыямі.

*— У прэсе чытаем, што адбываюцца частыя сустрэчы ўладаў Беластоцкага ваяводства і Гродзенскай вобласці. Ці Беласточчыне такія кантакты даюць нейкія карысці?*

— Ну, вядома! Вось нядаўна мы падпісалі з адпаведнымі гродзенскімі ўладамі пагадненне аб трансгранічным развіцці гаспадарчых і культурных сувязей. Я, праўда, вельмі перажываў, што адразу давялося зачыніць гранічны пераход у Бабровніках, бо неабходна было пабудаваць мост. У ваяводскіх інвестыцыях на гэты год прадугледжваецца яго далейшая разбудова. Ёсць на гэта сродкі.

*— Меркавалася, што гранічны пераход у Бабровніках будзе зачынены на цэлы год, а будаўнікі зрабілі ўсё за паўгода. Як удалося з гэтым справіцца за такі кароткі час?*

— Мушу ў гэтым месцы пахваліцца, што тут якраз ёсць і мая немалая заслуга. Рашуча! Як важна гэта для Беласточчыны, можаце сабе ўявіць, калі скажу, што ў даны момант кааперуюць між сабою амаль сорак фірм з Беласточчыны і Гродзеншчыны.



Фота Ады Чачугі

*— Ці, беручы пад увагу штораз шырэйшыя гаспадарчыя кантакты між Польшчай і Беларуссю, не занадта мала ў нас гранічных пераходаў на Беларусь?*

— Сапраўды, супольнай граніцы ў нас — амаль 240 кіламетраў, а пераходы ўсяго два: у Кузніцы і ў Бабровніках. Я лічу, што павінны мы іх мець значна больш. Мы ўжо наконт гэтага размаўлялі з гродзенскімі ўладамі. Тут найважнейшае, каб былі дзеля гэтага адпаведныя ўмовы, а перш за ўсё — добрыя пад'язныя да граніцы дарогі. Мы гэту справу грунтоўна разглядалі і я запрапанаваў беларускаму баку, што можам зрабіць наступны пераход у Новым Двары. Аднак жа канкрэтнага адказу ад іх пакуль што няма. Відаць, беларусам гэта месца не надта адпавядае. Спадзяюся аднак, што неўзабаве мы і гэту справу вырашым так, каб было лепш і зручней абодвум бакам.

*— Ці не здаецца Вам, што Беласточчына ў кантактах з Усходам займае асобае месца — больш важнае і адказнае, з'яўляецца быццам памостам, які спалучае Польшчу і Беларусь?*

— Ясна! Якраз у нас канцэнтруецца найбольш супольных пачынанняў. Менавіта тут! Вядома, спрыяюць гэтаму розныя фактары: перш за ўсё гэта блізкасць граніцы, веданне моваў суседніх народаў — з гэтым нікто ніколі не меў клопатаў, а апрача таго і тое, што па абодвух баках жывуць часта не толькі добрыя знаёмыя, але і цалкам блізкія сваякі. Асабліва спрыяюць гэтыя фактары пры культурным абмене. Калі прыязджае, напрыклад, нейкі калектыў з Беласточчыны на Гродзеншчыну (беларускі ці польскі — гэта няважна), дык спяваюць яны песні, якія вельмі добра ведаюць жыхары нашых рэгіёнаў, адным словам, блізкія адным і другім.

*— Скажыце, калі ласка, як, на Вашу думку, факт існавання нацыянальных меншасцей — беларускай на Беласточчыне і польскай на Гродзеншчыне — уплывае на адносіны паміж Польшчай і Беларуссю? Ці не выклікае ён нейкай варожасці, нязгоды?*

— Магу сказаць толькі адно. Гэты факт не толькі не перашкаджае, але і дае надзвычай пазітыўныя вынікі. Я не патрапліў сканцэнтравацца на нейкіх канкрэтных падзеях, але ўся атмасфера, клімат гэтых кантактаў гавораць за тое, што як культурны, так і гаспадарчы абмен усё гэта толькі аблягчае.

*— Як Вы ацэньваеце дасягненні беларусаў Беласточчыны ў галіне культурнай дзейнасці?*

— О! Я іх цаню высока. Мушу прызнацца, што я кожны год бываю на Фестывалі царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы. Апошнія два фестывалі я нават адкрываў і ўручаў узнагароды ваяводы. Захапляе мяне царкоўная музыка! Бываю таксама на канцэртах калядных песень, якія штогод арганізуюцца ў Беластоцкай філармоніі. Вось і цяпер збіраюся на такі канцэрт. Вядома, хаджу на Фестывалі беларускай песні. Як не пайсці, калі яе прыгажосць зачароўвае!

*— Вельмі дзякую Вам за размову і зычу далейшай плённай працы ў карысць жыхароў нашага рэгіёна!*

**Гутарка праведзена 12 студзеня 1996 года**

---

*Алег Латышонак*

## Багаты вечар у выцвярэзніку

Багаты вечар у беластоцкім выцвярэзніку быў надта ж бедны на пацыентаў. Калі нехта чакаў навалы ахвяр святкавання, той памыляўся. Далёка за поўнач, калі я наведаў гэтую установу, панавалі тут цішыня і спакой. Толькі зрэдку гэты стан парушала выццё нейкага авантурыста, які дамагаўся, каб вызвалiць яго з поясаў. Паясамі вяжуць толькі таго, хто дае адпор намаганням персаналу палажыць яго спаць. У час майго візіту такіх было двух. Адзін мацюкаўся, а другі хітра прасіў змілавання. Астатнія спалі непрабудным сном. Праз нейкі час аціх нават успомнены авантурыст.

Паколькі праз больш як гадзіну майго побыту ніхто тут не папаў, заводзім размову з кіраўніком змены Ігнацым Кавалёнкам і дзяжурным лекарам Стэфанам Рагелем пра штодзённасць выцвярэзніка.

Маецца тут 47 ложак. Асобныя залы прызначаны для жанчын і падлеткаў. У зале для жанчын толькі тры ложкі і наогул не здараецца, каб іх тут больш апынулася за раз. Падлеткаў пападае штораз больш, нават з пачатковых школ.

У асноўным пападаюць тут людзі з хатніх авантураў. Некаторым здараецца гэта 20—30 разоў, а то і 50. Другая паводле колькасці катэгорыя пацыентаў гэта так званыя „лежачкі", якіх паднялі проста з вуліцы. Паліцыя прывозіць тут таксама бяздомных, нават не надта п'яных, бо няма іх дзе падзець. Век і грамадскі статус прывезеных сюды самы разнастайны. Пераважае г.зв. „маргінэс", але няма мусіць такой прафесіі ўключна са святарскім станам, якой прадстаўнік тут не папаў бы.

Найбольш людзей трапляе ў выцвярэзнік у дзень выплаты або папулярных імянін, напрыклад Станіслава або Мікалая. Тым не менш ніякага асноўнага прынцыпу не існуе. Бывае, ні адтуль, ні адсюль назбіраецца больш за сорак пацыентаў у сярэдзіне тыдня, у будні дзень.

Адпускаюць пацыентаў пасля 8 гадзін, бо лічыцца, што за гэты час арганізм перамагае стэрэатыпнае паўлітра. Некаторыя, вядома, выпіваюць намнога больш. Нядаўна трапіўся чалавек, які меў у крыві 4,7 праміле алкаголю і толькі лёгкае парушэнне раўнавагі. Нават сам раздзеўся.

Найгоршыя для персаналу такія, якіх паліцыя прывозіць у наручніках. Кайданы здымаюць, а ты пасля з ім спраўляйся. Працаўнікі маюць права прымяняць сілу, але гэта часта канчаецца тым, што віноўнік, працверазеўшы, падае іх у суд. Практычна кожны з працаўнікоў меў нейкую справу ў судзе. З другога боку, працаўнікі становяцца ахвярамі пабояў з боку пацыентаў. Тады могуць шукаць спраўядлівасць „z powództwa cywilnego".

Для лекара найгоршыя выпадкі, калі да яго трапляюць п'яныя з нейкай дарожнай аварыі або хворыя на цукровы дыябет, эпілепсію і г.д.

Доктар Рагель прыгадвае, што пачуў у тэлебачанні, як у Лодзі пракурор узбудзіў справу аб давядзенні да смерці эпілептыка, якога з выцвярэзніка

*Працяг на стар. 4*

## МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Powieści historyczne Sienkiewicza, ukazujące się w licznych tłumaczeniach, bardzo podobały się Stalinowi. Feliks Edmundowicz Dzierżyński zalecał ich lekturę młodym literatom radzieckim. Założycielowi „czeka" mógł się podobać „święty sadyzm Sienkiewicza". Namiętna chęć dręczenia niewinnej, bezbronnej ofiary przenika nie tylko negatywnych bohaterów „Pana Wołodyjowskiego", ale podziela ją nawet dyrektor cyrku sadystycznie katujący młodziutką woltyżerkę. Pastwienie się nad kobietą należało do obsesyjnych tematów Sienkiewicza.*

*Polityka, nr 52 (1995 r.)*

* * *

*Oleksy jest moim przyjacielem i będę go bronił do upadłego, — powiedział emerytowany pułkownik KGB Władimir Ałganow.*

*Gazeta Wyborcza, nr 2*

* * *

*У год насельніцтва Беларусі змяншаецца на 90 тысяч чалавек. Калі гэтая тэндэнцыя захаваецца, то праз 111 гадоў, да 2105 года, з твару зямлі можа знікнуць апошні жыхар Беларусі, як некалі зніклі скіфы, хазары, сарматы, кімерыйцы, мая, кічэ, голь і іншыя народы. Паводле даных медыкаў, да 2000 года кожны другі жыхар Беларусі можа быць хворы на анкалагічныя захворванні. Калі, не дай Бог, гэтыя прагнозы спраўдзяцца, то працэс вымірання беларускага народа пачаўся ў 1993 г.*

*Голас Радзімы, н-р 52 (1995 г.)*

* * *

*Włodzimierz Lenin twierdził, że nawet kucharka potrafi rządzić, i bardzo się mylił. Może ona jedynie pomóc w przeprowadzeniu puczu, a później stanie się tylko bezwolnym narzędziem dyktatury.*

*Wprost, nr 1*

* * *

*Наведаньне першага ў Беларусі сэкс-шопа, які знаходзіцца ў Менску па вуліцы Карбышава, магчыма не было падзеяй года, але засталося ў памяці. Беларускі сэкс-шоп на фоне падобных прыбыткаў у Заходняй Эўропе прэзентуецца не найгорш,* — сказаў Валодзя Пац, карэспандэнт Польскага радыё.

*Свабода, н-р 62*

Далучэнне да Захаду можа адбывацца рознымі шляхамі.

* * *

*Для Беларусі ў прыходзе да ўлады расійскіх камуністаў хаваецца іншая небяспека. Наша краіна ўжо чатыры гады балансуе на мяжы страты незалежнасці. Перавага ў Думе „левых" і рускіх нацыяналістаў зноў схіляе шалі на некарысць незалежнай будучыні Беларусі. Дэнансацыя Белавежскіх пагадненняў новым расійскім парламентам здольна стаць рэальнасцю.*

*Звязда, н-р 259 (1995 г.)*

Калі „Звязда" заяўляе, што можа быць яшчэ горш, тады сапраўды сітуацыя не вельмі вясёлая.

* * *

*Прэзідэнт Беларусі павіншаваў Аляксандра Кваснеўскага ў сувязі з інаўгурацыяй,* — заяўляе

*Народная газета, н-р 270 (1995 г.)*

* * *

*Дзяржаўнае выдавецтва „Беларускі Дом друку" рыхтуецца да выпуску новай прадукцыі — каляровых партрэтаў Лукашэнкі. Друкарам былі прапанаваны два прэзыдэнцкія здымкі: на адным Лукашэнка даволі сур'ёзны, а на другім — глядзіць ласкава, як Ленін падчас вядомага параду чырвонаармейцаў у час грамадзянскай вайны. Але які прэзыдэнт будзе зацьверджаны, пакуль невядома. Не выключана, што ў друк запусьцяць абодвух — „ласкавага" для продажу сярод насельніцтва, а „грознага" для вертыкалістаў, генералаў, старшыняў, дырэктараў, якія седзячы перад партрэтам, павінны адчуваць павагу ды жах і перадаваць гэтыя пачуцьці наведвальнікам.*

*Свабода, н-р 60 (1995 г.)*

* * *

*Struktura państwa w Polsce jest wyobcowana ze społeczeństwa, nie podlega żadnej kontroli społecznej i jest całkowicie otwarta na działania wpływów wszelkiego rodzaju służb specjalnych z zagranicy. Jest polem bezpiecznym, gdyż nawet w przypadku kompromitacji nikt w nic nie wierzy. Przypomina to znane w historii czasy, kiedy wszyscy posłowie brali pieniądze od ambasadorów krajów ościennych, a za głupca uważano tego, który jeszcze nie wziął.*

*Gazeta Polska, nr 1*

* * *

*Wiadomo, że to gwiazdy sowiecko-peerelowskiego wywiadu — Jasik, Zacharski, Libera — opracowywały sprawę Oleksego... Wszystko to wskazuje, że służby rosyjskie pragną wziąć aktywny udział w toczącej się w Polsce rozgrywce,* — сказаў Антоні Мацярэвіч, былы міністр унутраных спраў III Рэчы Паспалітай.

*Gazeta Polska, nr 1*

* * *

*Mężczyźni zgłaszający się do chirurga plastycznego chcą na ogół poprawić wszystko, co do poprawienia się nadaje. W kontekście obyczajowego przymusu możliwość posiadania odpowiedniego penisa nabiera wymiaru tragedii antycznej. Każdego roku 100 tys. młodych Niemców udaje się w tym celu do chirurga. Dr. Melvyn Rosenstein, uchodzący za pioniera w powiększaniu i pogrubianiu męskiego przyrodzenia, jest przekonany, że w ciągu godzinnego zabiegu może odmienić życie swoim pacjentom, wydłużając podczas pierwszej wizyty penis o 5,25 cm. W Ugandzie natomiast powiększenie fallusa polega na obciążeniu go kilogramowym ciężarkiem. Metodę tę sprawdził Amerykanin Roland Clark, w ciągu nocy jego członek wydłużył się o 3,8 cm.*

*Wprost, nr 1*

Чаго не робіцца для жанчын!

* * *

*Kiedyś demokracja dzieliła się na tę właściwą socjalistyczną i zdegenerowaną, burżuazyjną. Obecna polska demokracja jest niesprawna, chaotyczna, nieelegancka. Prymitywizm, prostactwo, pieniactwo, deptanie interesów państwa dla korzyści własnych jest równie częste na lewicy jak i na prawicy polskiej sceny politycznej. Smutny spektakl toczy się na naszych oczach.*

*Kurier Poranny, nr 4*

А мела быць так прыгожа!

## З МІНУЛАГА ТЫДНЯ

**Будучыні Беларускага музея ў Гайнаўцы** прысвечаная была сустрэча віцэ-міністра культуры і мастацтва **Міхала Ягелы**, дырэктара Бюро па справах культуры нацыянальных меншасцей Міністэрства культуры і мастацтва **Ежы Бісяка**, беластоцкага ваяводы **Анджэя Гаеўскага**, бурмістра Гайнаўкі **Ядвігі Рудзінскай-Патэюк** з прадстаўнікамі Беларускага грамадска-культурнага таварыства і Грамадскага камітэта пабудовы Беларускага музея. Бакі дамовіліся, што неабходна як найхутчэй распрацаваць статут музея, які будзе зацверджаны Дэпартаментам музеяў Міністэрства культуры і мастацтва. Тады, пасля падпісання пагадненняў з БГКТ і Грамадскім камітэтам пабудовы Беларускага музея, ваявода стаў бы адзіным юрыдычным уласнікам музея і фінансава падтрымоўваў бы яго дзейнасць. Была таксама створана камісія пад старшынствам дырэктара Аддзела культуры Ваяводскай управы **Казімежа Дэркоўскага**, якая да 15 лютага распрацуе праекты пагадненняў.

**Мітрапаліт Пракопій**, прадстаўнік Сінода Грэчаскай Праваслаўнай Царквы, наведаў Святую Гару Грабарку і Супрасль. У Беластоку мітрапаліт разам з архіепіскапам **Савам** узначаліў набажэнства ў Свята-Мікалаеўскім саборы, а пазней сустрэўся з вернікамі, у тым ліку з прадстаўнікамі Брацтва праваслаўнай моладзі.

**У Цехацінку** ў Влоцлаўскім ваяводстве праводзіцца рэстаўрацыя царквы XIX стагоддзя, прызначанай для Праваслаўнага палявога ардынарыята. Храм стаіць на закрытай тэрыторыі вайсковага санаторыя і да восені мінулага года знаходзіўся ў распараджэнні Міністэрства нацыянальнай абароны. Царква ў Цехацінку была пабудавана ў канцы мінулага стагоддзя і ўзвялі яе ўральскія цесляры, на што паказваюць канструкцыя і арнаментыка, характэрныя для ўсходняй Расеі. У міжваенны перыяд, калі санаторныя аб'екты пераняло Войска Польскае, царкву перамянілі на святліцу. Пасля II сусветнай вайны ў ёй памяшчаліся школа і склады. Пасля заканчэння цяперашняга рамонту храм зноў прыме праваслаўных вернікаў.

**Літоўскае консульства ў Сэйнах** атрымала кругласутачную паліцэйскую ахову. Раней нехта абкідваў будынак дыпламатычнага прадстаўніцтва яйкамі, прабаваў знішчыць літоўскі дзяржаўны сцяг, была ўкрадзена шыльда. Літоўскія ўлады сцвярджаюць, што іх дыпламатычныя прадстаўніцтвы „нідзе, нават у Расеі" не маюць такіх клопатаў. Адзіным выключэннем у сусветным маштабе з'яўляюцца Сэйны.

**Беластоцкія геадэзісты** ўжо трэці раз па чарзе сталі лаўрэатамі XXI Агульнапольскага конкурсу якасці камасацыйных прац. Першую ўзнагароду за праект камасацыі грунтаў вёскі Новая Воля атрымалі **Мікалай Панькоўскі** і **Ежы Яхоўскі**, а трэцюю — калектыў Ваяводскага геадэзічнага бюро, якое ўзначальвае **Тадэуш Курыловіч**.

**68 ікон і 6 крыжоў** выявілі мытнікі з Кузніцы-Беластоцкай у цягніку, які прыехаў з Масквы. Іконы былі схаваны ў бакавых сценках і пад вокнамі двух пустых купэ. Ніхто с пасажыраў не прызнаўся да кантрабанды. Да гэтай пары мытнікам не прыходзілася рэквізаваць столькі ікон за раз. За ўвесь мінулы год адабралі яны ў кантрабандыстаў 72 іконы. Усе рэквізаваныя іконы мытныя службы перадаюць Акруговаму музею ў Беластоку.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У "НІВЕ"

> Ці будзе павялічаны эфірны час беларускіх радыёперадач у Беластоцкім радыё? — на гэта і іншыя пытанні адказвае Ежы Мушынскі.

> Пра беластоцкіх студэнтаў у Менску піша Алена Таболіч, дацэнт Менскага універсітэта.

> Якая будучыня сельскай гаспадаркі.

## ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

### Парламент выбраў спікера

Адбылася I сесія Вярхоўнага Савета XIII склікання. Старшынёю ВС дэпутаты выбралі Сямёна Шарэцкага, аднаго са стваральнікаў Аграрнай партыі і цяперашняга яе лідэра. Нарадзіўся ён у 1936 годзе на Гродзеншчыне. Па адукацыі ён аграном, доктар эканамічных навук, прафесар, член-карэспандэнт Аграрнай Акадэміі РБ. Ён жанаты, жыве ў Менску, у яго двое дарослых сыноў.

### Юрый Авяр'янаў не жыве

На 44 годзе жыцця раптоўна памёр адзін з вядучых акцёраў Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы Юрый Авяр'янаў. З 1972 г. працаваў ён на вядомай купалаўскай сцэне і з першых сваіх роляў адразу запомніўся гледачам. Голас Авяр'янава амаль кожны дзень гучаў па беларускім радыё ў розных радыёпастаноўках і перадачах. Ён быў вялікім сябрам, дарадцам, настаўнікам. Жыхары Беластока мелі магчымасць пабачыць Юрыя Авяр'янава ў спектаклях „Тутэйшыя" і „Ідылія", з якімі купалаўцы выступалі на падмостках Драмтэатра імя А. Вянгеркі.

### Стыхія ў сталіцы

У сувязі са снегападам 10 студзеня ў Менску было аб'яўлена надзвычайнае становішча. Цяжка ў горадзе было ўсім: і пешаходам, і транспартнікам, аднак улады горада задбалі, каб увесь наземны транспарт працаваў, нягледзячы на складанасці, якія можна было аднесці да разраду стыхійных.

### Несумленныя банкіры

Беларуская рэспубліканская пракуратура паведаміла, што ўзбудзіла крымінальную справу ў адносінах да службовых асоб і кіраўнікоў Ашчаднага банка. У ходзе праверкі быў выкрыты шэраг злоўжыванняў службовым становішчам з іх боку і парушэнняў фінансава-гаспадарчай дысцыпліны, што нанесла асабліва буйны ўрон дзяржаве. У прыватнасці Міністэрства фінансаў перадало Ашчадбанку 25 млн. дол. ЗША пад 4% гадавых для індэксацыі ўкладаў насельніцтва і мэтавых укладаў на дзяцей. Гэтыя валютныя сродкі былі выдзеленыя ў якасці крэдытаў камерцыйным структурам і пераведзеныя на дэпазітныя рахункі ў замежныя банкі. Усяго са жніўня 1994 г. па ліпень 1995 г. былі выдадзены крэдыты дзесяці камерцыйным структурам на агульную суму 9,8 млн. дол. ЗША, большая частка якіх банку не вернута.

### Крадзеж у арсенале

Беларускай ваеннай пракуратурай узбуджана крымінальная справа і вядзецца следства па факце крадзяжу ў былым 25 арсенале ракетных войскаў стратэгічнага прызначэння СССР у Коласаве 7,8 кг плаціны і сплаваў на суму каля 15 млрд. беларускіх рублёў.

### Спадарожнікавае тэлебачанне

Сістэма прыёму перадач са спадарожнікаў „Галс", якія дазваляюць у краінах СНД кругласутачна прымаць восем тэлеканалаў, выканана на Віцебскім вытворчым аб'яднанні „Віцязь". Хутка прадпрыемства пачне выпуск тэлевізараў шостага пакалення, у якіх гэтыя сістэмы будуць уманціраваны і дазволяць напрамую прымаць сігналы са спадарожнікаў.

### Клопаты са збытам

На мяжы банкруцтва апынуўся напярэдадні новага года Гомельскі завод „Белэмальпасуда". Вычарпаўшы ўсе магчымасці заставацца на плаву, калектыў і мясцовыя ўлады звярнуліся ў вышэйстаячыя інстанцыі з просьбай прысланы кампетэнтную камісію і вызначыць далейшы лёс прадпрыемства. На думку спецыялістаў, прычына ў адсутнасці рынкаў збыту. Для прыгожай, але дарагой пасуды, якая яшчэ не так даўно карысталася вялікім попытам у краінах СНД, завод цяпер не знаходзіць пакупнікоў. У выніку, з верасня на заводзе не выплачваецца заработная плата, няма грошай для закупкі сыравіны і падтрымання жыццёва неабходных умоў вытворчасці.

### У пошуках золата

Ідэя знайсці золата не пакідае спецыялістаў Беларускага дзяржаўнага навукова-даследчага геалагічнага прадпрыемтсва. Для ацэнкі залатаноснасці і распрацоўкі тэхналогіі здабычы каштоўнага металу яны ўзялі на баланс Коханаўскі гравійна-пясчаны кар'ер у Талачынскім раёне. Зыходзячы з існуючых матэрыялаў аб размеркаванні вагавой колькасці золата ў пародзе, геолагі прыйшлі да вываду, што кар'ер гэты перспектыўны і звярнуліся ва ўрад з прапановай аб фінансаванні далейшых пошукаў.

### Узброеная кантрабанда

Напярэдані новага года супрацоўнікі Гродзенскай рэгіянальнай мытні прадухілілі спробу кантрабанднага перавозу цераз польска-беларускую мяжу зброі і боепрыпасаў. Падчас стаянкі ў Гродне хуткага цягніка нумар 25 з Санкт-Пецярбурга ў Берлін яны ў адным з вагонаў знайшлі і канфіскавалі баявы пісталет „Браўнінг" з 11 патронамі, 367 грамаў выбуховага рэчыва і 2 дэтанатары. Па гэтым факце ўзбуджана крымінальная справа і вядзецца следства.

# Разжыліся з-за саломы

Вёска Грабавец, што паўтара кіламетра ад Дубічаў-Царкоўных, вітае этнаграфічнымі цікавінкамі — драўлянымі ветракамі. У мясціне аж тры ветракі-млыны.

У Грабаўцы сустрэнеце яшчэ адзін арыгінальны від народнага мастацтва — вырабы з саломы. Дакладней кажучы, вёска спецыялізуецца ў вытворчасці саламянай пасуды, пераважна вялікіх корабаў. Называюць іх тут *каробкамі*.

— Дзякуючы каробкам вёска разжылася, пабудавалася, гаспадары накупілялі сельскагаспадарчых машын, — гаворыць прыбіральшчыца з вясковай школы. — Але цяпер, — дадае яна, — бяруцца шыць іх толькі тыя, у каго няма чым аплаціць *падаткаў*.

Сённяшні Грабавец выглядае прыгожа і па-сучаснаму. У хатах водаправоды, тэлефоны. Калі б нехта з прыезджых зусім не чуў пра „залатую жылу", падумаў бы, што тут пшанічныя землі або што сяляне прымяняюць сучасную тэхналогію апрацоўкі зямлі. У сутнасці справы выглядаюць інакш. Зямелька тут ліхая, пяты і шосты клас. У вёсцы пераважаюць пенсіянеры, якія апісалі свае гаспадаркі на гарадскіх дзяцей.

— Часам завітаеце ў стройную, прасторную мураванку і там адно бабку і дзеда сустрэнеце, — скажуць вам наведвальнікі.

У Грабавец едуць многія паклоннікі неканвенцыянальнага лячэння. Мясцовыя знахары вядомыя ўжо ва ўсёй Беласточчыне.

— Дзесяць гадоў таму вёска пабудавала школу, а цяпер няма ўжо каго там вучыць, — гаворыць войт гміны Дубічы-Царкоўныя Анатоль Паўлоўскі. У новым навучальным годзе плануецца ліквідацыя школы. На сённяшні дзень у школе трыццаць дзетак.

— Ужо з шэсць гадоў будзе, як бацькі змагаюцца за існаванне школы, — чую ў настаўніцкім пакоі.

— Адны хочуць зрабіць тут *дом старцаў*, іншыя *дом дзецка*, а ў вёсцы рашылі, што найбольш патрэбны дом старога кавалера, — жартуе Ян Васілюк, солтыс вёскі. У Грабаўцы больш за трыццаць нежанатых *рольнікаў*.

— Бывае, што ў адной хаце па тры штукі сядзіць, — гавораць у вёсцы.

— Малачарню адваявалі, — успамінае бурлівы, шматгадовы канфлікт солтыс. Вайна ўспыхнула за месца пабудовы. Адны намагаліся пабудаваць малачарню ў сваім канцы, іншыя стаялі за лакалізацыяй пасярэдзіне вёскі.

— Гэта быў час, што брат супраць брата ваяваў, судзіцца людзі аж у Варшаву ездзілі, — паясняе солтыс.

Малачарня, якую вокамгненна грамадскімі сіламі пабудавалі, стаіць пасярэдзіне даўжэзнага Грабаўца. Улетку прыносяць тут да трох тысяч літраў малака. У вёсцы працуюць два магазіны. У мясціне звыш ста пяцідзесяці сядзіб, але маладых перспектыўных гаспадароў можна палічыць на пальцах рук.

— Вёска памерла б раней, але адратавала нас вытворчасць корабаў, — разважае Ян Васілюк. Саламяная вытворчасць папулярная і ў суседніх мясцінах: Рудцы, Рудутах, Тафілаўцах, Тапарках, Дубічах.

— Сёння аднак гэты занятак перастае аплачвацца. Цану адной каробкі пералічваць у нас на водку, — расказвае солтыс. — Раней за адну каробку было тры бутэлькі „Сталовай" (і яшчэ на кансерву хапала), а цяпер на адну бутэльку „ад рускіх" не хопіць.

Саламянай вытворчасцю ў вялікім маштабе пачалі ў Грабаўцы займацца з 60-х гадоў. Ад малога да старога ўсе шылі каробкі. Ніна Васілюк, жонка солтыса, якая зараз шыла саламяны збанок, з дзяцінства займаецца выплятаннем пасуды.



*Ян Васілюк — солтыс Грабаўца.*

— Як толькі я прыбягала са школы, то бралася за гэту працу, — успамінае яна. — Дапамагаць бацькам вельмі ж хацелася, бо раз, што гэтым усе займаліся, а іншая справа, што была нагода зарабіць свае грошы. Дзеці мелі заўсёды свой „працэнт" і дзялянку. Выплаталі самыя простыя элементы.

— Зімовыя вечары былі не толькі працавітыя, але і цікавыя, — гаворыць Ян Васілюк. — Калі змяркала, людзі бралі пад паху пучок саломы і ішлі ў назначаную хату. Бывала, зыдзецца сем—дзевяць чалавек і расказваюць па чарзе цікавыя здарэнні. Тады і праца ішла незаўважна. Да поўначы працавалі. Толькі калі паложышся спаць, то адчуваеш, што рукі крууціць.

Найбольшы ўздым у саламянай вытворчасці выпаў тут на 70-я гады. За зімовы перыяд, бо тады пераважна займаліся гэтай працай, выплаталі ў Грабаўцы трыццаць тысяч корабаў.

— Людзі стараліся, бо быў з гэтага прыбытак, — гаворыць Ян Васілюк. — Дабіралі найлепшую салому, прытрымоўваліся норм і заказваных памераў. Цяпер абы-як сплятаем і добра.

Для пляцення пасуды і іншых прадметаў патрэбная доўгая жытняя салома з тонкім і роўным сцяблом. З гэтай прычыны ў Грабаўцы не карыстаюцца камбайнамі. Сухую салому найперш трэба размачыць у вадзе, пасля чаго становіцца яна мяккай і эластычнай. Корабы плятуць грабаўчане спіральнай тэхнікай. Жгуты роўнай саломы сшываюць лыкам з ляшчыны.

— Маладыя рукі такую пасуду пашываюць за чатыры гадзіны, — гаворац вясковыя майстры.

— Адно з саломай былі клопаты, — успамінае Ян Васілюк. — Ездзілі па наваколлі і шукалі адпаведны матэрыял. Я папаў аж у Пасынкі, а пазней у Лешчыны. Там толькі здзіўляліся, што на саломе можна зарабляць грошы. Бывала, што калі некаму пашанцавала знайсці адпаведную салому, то людзі не прызнаваліся, дзе яе купілі. Не менш праблем было з лыкам. У наваколлі ўсе ляшчыннікі абламаныя. З Грабаўца ездзяць пераважна ў бок Супрасля або Міхалова. Там першакласныя дрэўцы. Пазней трэба падзяліць ляшчыну на тонкія пасачкі. Раней рабілі гэтае ўручную. Гэта была самая цяжкая праца. Але народ тут вынаходлівы. Сяляне сканструявалі механічны гэблік.

— Проста, да гэбля падключылі рухавік ад мапеда „Камар", — расказвае солтыс.

— Калі каробкі перасталі аплачвацца, людзі перакінуліся на драбніцу, — гаворыць Ніна Васілюк. — Пачалі выплятаць збанкі, талеркі, кошычкі.

Сама Ніна Васілюк прыдумала дэкаратыўны званок.

— Цяпер, калі ідуць Каляды, то *адбёрца* патрабуе гэтых званкоў многа, — удакладняе яна.

Калі згадаць пра *адбёрцаў* (пакупнікоў), то прыязджаюць яны ў Грабавец нават з Кракава. Пазней пасылаюць вырабы грабавецкіх майстроў у Нямеччыну. Скупкай саламяных вырабаў займаецца таксама гайнаўскае прадпрыемства „Ляс". Запатрабаванне аднак сёння сціплае і цана сімвалічная. За метровы кораб, збанок плацяць сем злотаў.

— Зараз плятуць ужо не толькі з саломы, — гаворыць Ян Васілюк. — Людзі прыдумоўваюць усякія дробязі з яліны, моху, бадылёў чарніц. Модныя сталі таксама кошычкі з бярэзіны. Таму ўсе бярозы ў наваколлі, як нідзе, стаяць з аблупленым голлем.

* * *

На Падляшшы з даўніх часоў выплялі саламяны посуд — корабы, шыяны з векам для захавання збожжа або мукі, сявенькі. Ва ўсёй Беларусі былі папулярныя вырабы з саломкі. У канцы XVIII і пачатку XIX стагоддзяў рабілі нават саламяныя іканастасы. Да нашых дзён дайшлі унікальныя ўзоры царскіх варот з цэркваў вёскі Лемяшэвічы на Міншчыне, Вавулічы Драгічынскага раёна і Гродзенскага Барысаглебскага манастыра.

Таксама вытворчасць грабавецкіх майстроў заслугоўвае захавання. У Гайнаўскім беларускім музеі для гэтага павінна знайсціся месца.

**Ганна Кандрацюк**
Фота аўтара



*Ніна Васілюк выплятае чарговы збанок.*

# Не ўсе гуляюць

12 студзеня прайшла першая ў гэтым годзе сесія гарадской рады Бельска-Падляшскага. Бельскі дом культуры быў ужо падрыхтаваны да „Sylwestra po raz drugi" — у кутку ёлка, над галовамі каляровыя лампіёны і серпантыны — дык і дэбаты пасоўваліся дапераду гладка.

Інфармацыю пра правізорны бюджэт на бягучы год, з якой выступіла скарбнік Гарадской управы Галена Бушко, можна звесці да яе слоў: „У канцы мінулага года павысіліся зарплаты ў бюджэтнай сферы, а таксама па-новаму будуць налічвацца падаткі. Усе падлікі трэба рабіць ад пачатку".

Радныя ўтрымалі старую месячную плату — 35 злотаў — за гарадскія дзіцячыя сады. Ад 1 верасня, аднак, месца ў прадшколлі падаражэе на 2 злоты і будзе каштаваць 37 злотаў.

Не выклікала супярэчанняў устанаўленне цаны за рэкламныя стэнды пры гарадскіх вуліцах. У цэнтры горада — вуліцы: Міцкевіча, 3-га Мая, Каперніка і Казімежоўская ды Ратушная плошча — за квадратны метр такой рэкламы трэба будзе заплаціць цану 40 літраў этыліраванага бензіну-98 (г.зв. чырвонага). У іншых вуліцах раўнацэннасць 30 літраў такога ж бензіну. Гарадскі цэннік не абавязвае на вуліцах, якія з увагі на сваё транзітнае значэнне падпарадкаваныя ваяводу, напрыклад вуліца Пілсудскага.

Ужо, здавалася, у зале адчувалася пах шампанскага з наступнага вечара, калі нечакана пункт аб плане працы Гарадской рады ў 1996 годзе крыху заблытаў сам старшыня Васіль Ляшчынскі. Невядома было, дзе змясціць разгляд запрапанаванага ім нейкага грамадска-гаспадарчага плана развіцця горада. Раілі над гэтым гадзіну, каб усадзіць яго ў жніўні, мяняючы пры гэтым тэрмін „план" на „накірункі" („план" быццам бы спалучаўся з мінулай эпохай).

Сесія скончылася справаздачай з працы рэвізійнай камісіі, якую склаў яе старшыня Міраслаў Талвінскі. Камісія праводзіла кантроль перадачы ў маі 1991 года часткі маёмасці Ваяводскага прадпрыемства водаправодаў і каналізацыі гораду. Затым папярэдняя Гарадская ўправа аддала гэтую маёмасць у карыстанне Прадпрыемству камунальнай гаспадаркі. Працэс прайшоў з парушэннямі абавязваючага закону. Які працяг мецьме справа, будзе рашаць цяперашняя Управа.

Тым часам радныя маглі разысціся прымерваць новыя гальштукі і прыгадваць заняздбаны з-за палітыкі крок танга. Карнавал.

**М. В.**

# ТРЭБА ПРОСТА ХАЦЕЦЬ!

Аб тым, што ў Чаромсе неабходны пункт скупкі бутэлек і макулатуры, нікому не трэба тлумачыць. Хопіць глянуць на свой панадворак. Кучы парожняй пасуды з-пад піва, гарэлкі і іншых напіткаў. Мы за іх плацілі грошы. Зараз яны непатрэбныя, проста перашкаджаюць, завальваюць месца. А прадаць няма дзе.

Такое ж самае тычыцца макулатуры. У кожнага амаль гара ломіцца. Столькі ж куплёем газет ды часопісаў...

Неаднойчы, пры пакупцы нейкага тавару (воцату, напрыклад) хочам замяніць бутэльку. Прадаўшчыца адмаўляецца, быццам парожніх скрынак няма. А залог за бутэльку бярэ. І калі тавар неабходны, нам прыходзіцца плаціць непатрэбны залог. А пасля трэба валачыся яшчэ ў Бельск-Падляшскі ці Гайнаўку, каб прадаць бутэлькі і вярнуць свае грошы.

У магазіне ў Чаромсе прадаўшчыца мне сказала, што яны часам купляюць усялякія бутэлькі з-пад піва, гарэлкі ці віна, аднак, у той час як мы размаўлялі, парожніх скрынак не было. Уласнікам гэтай крамы з'яўляецца прадпрымальнік з Беластока. Гэта яму некалі прыйдзе ў галаву паставіць у краму некалькі скрынак, каб выручыць чарамшукоў з парожніх бутэлек. Шкада, што гэта робіцца не кожны дзень, а толькі час ад часу.

Як бачым, усё можна зрабіць. Трэба проста хацець. А чаромхаўскім гандлярам не ўсё выгадна рабіць — проста не хочуць!

**Уладзімір Сідарук**

# Асвета і бяспека ў Дубічах

Дубічы-Царкоўныя, гэта калі не самая малая, дык напэўна адна з найменшых гмінаў у Польшчы. У 23 вёсках, з якіх салэцкіх 17, пражывае ўсяго 2,5 тысячы чалавек, прычым жыхароў усё меншае. У трох пачатковых школах на тэрыторыі гміны — у Дубічах-Царкоўных, Старым Корніне і Грабаўцы — толькі 148 вучняў. Аднак і з гэтымі невядома як даць рады.

— Я яшчэ не спаткаўся з сітуацыяй, каб для такой колькасці дзяцей працавалі аж тры школы, — кажа войт **Анатоль Паўлоўскі**, на галаве якога ад 1 студзеня асвета ў гміне. Мае ён жаль да куратара, што той не зачыніў летась школу ў Грабаўцы.

— Там усяго цяпер 23 вучні. Да Дубіч паўтара кіламетра, але можна было б і давоз сарганізаваць. Школу ў гэтым годзе мы і так закрыем, але ўсё роўна будзе яна каштаваць гміну каля 700 мільёнаў старых злотаў. А ўвесь гмінны бюджэт запланаваны на крыху больш за 8 мільярдаў.

Такая структура школьніцтва — мала вучняў, многа школ — адмоўна паўплывала на велічыню субсідыі Міністэрства фінансаў. Таксама пры налічэнні грошай хтосьці памылкова занізіў мінулагодняя расходы на асвету. У сапраўднасці, была выдаткавана сума не 2 мільярды 300 мільёнаў, як прыводзіцца ў падставе налічэння сёлетняй датацыі, а 3,5 мільярда злотаў.

— Паводле закону, — кажа войт, — датацыя на бягучы год не можа быць большай, чымсьці 133% мінулагодніх расходаў. Нам прызначылі 2 мільярды 900 мільёнаў, якія забяспечваюць толькі 60% патрэб. Калі б нам налічылі 133% ад фактычных выдаткаў, нам гэтага поўнасцю хапіла б на спакойную працу школ.

У сувязі з тым, што асвета стала галоўным клопатам, Гмінная рада 28 снежня мінулага года накіравала спецыяльнае пісьмо ў Міністэрства фінансаў, Міністэрства нацыянальнай адукацыі і ў Кураторыю асветы ў Беластоку. У пісьме заяўляецца, што гміна бярэ на сябе ўсе абавязкі, звязаныя з адміністрацыяй школамі, аднак да канца года проста не хопіць на гэта грошай. Гмінная рада просіць яшчэ раз перагледзець спосаб налічэння субсідыі. Калі гэтага не будзе і на школы давядзецца адвесці сродкі, прызначаныя на іншыя мэты, можа гэта давесці нават да банкруцтва гміны і яе ліквідацыі.

Улічваючы пэўную далікатнасць справы, у школе пра пераход пад самаўрад гаварыць не хацелі.

* * *

11 студзеня ў Дубічах спакой, цішыня, каб не сказаць сонная атмасфера. Такі тут кожны дзень, хіба што за выключэннем гарачага лета, калі на блізкае вадасховішча на рэчцы Арлянцы з'язджаецца моладзь з усяе ваколіцы. Бываюць з ёю клопаты. Маладыя людзі нішчаць дарожныя знакі, ломяць дрэвы на вогнішча, летась разбілі вакзал у Вітаве. Камендант паліцыі ў Дубічах, **Яўген Хмара**, кажа, што самыя частыя парушэнні закона, гэта крадзеж лесу, парушэнні правіл дарожнага руху і сямейныя авантуры.



*Найбольшы клопат войта Анатоля Паўлоўскага — школы.*
**Фота Ганны Кандрацюк**

— На дарогах у нас пагоршала ў сувязі з пагранічным пераходным пунктам у Полаўцах. Госці з Беларусі часта ездзяць на машынах, якія лепш назваць кучай лому. І таксама даволі абыякава адносяцца яны да дарожных правіл. Вялікі прыток „рускага" спіртнога пашырае абсяг паталагічных з'яў у жыцці некаторых сем'яў.

(З неафіцыйных крыніц даведаўся я, што танны алкаголь з-за блізкай мяжы прыкончыў мясцовую самагоначную прадукцыю.)

— Нашая гміна, хаця бедная, — кажа Анатоль Паўлоўскі, — але 62 мільёны на новы паліцэйскі „Паланез" дапацілa. Пра бяспеку дбаем.

Таксама і пра супрацьпажарную. У мінулым годзе, на шчасце, вялікага пажару ў гміне не было, але два гады таму згарэў малады лес каля Елянкі, на граніцы з Кляшчэлеўскай гмінай. Таму важна спраўная пажарная ахова.

— У нас шэсць добраахвотных пажарных каманд, — з гонарам заяўляе войт, — апрача Дубіч, у Тафілаўцах, Старым Корніне, Карыцісках, Вярстку, Елянцы. Усе, апрача апошняй, маюць свае машыны, адпаведную тушыльную апаратуру і добрую падрыхтоўку.

Найлепш, зразумела, каб ні тэхніка, ні ўмеласць пажарнікаў не спатрэбіліся. Але, як то кажуць, сцеражонага і Бог сцеражэ.

**Мікола Ваўранюк**

# Багаты вечар у выцвярэзніку

*Працяг са стар. 1*

адасланы ў шпіталь, а там яго не прынялі і памёр ён у паліцэйскай машыне. Падобныя справы — гэта вельмі сур'ёзная праблема.

Лекары прымушаны балансаваць на вузкай мяжы закону і лекарскай этыкі. Вось, напрыклад, закон прадугледжвае, што бярэцца кроў ад пацыента, каб праверыць стан яго цвярозасці, а згодна з кодэксам лекарскай этыкі нельга браць ад пацыента ніякую тканку без яго згоды. Лекару застаецца выбіраць між канфліктам з пракурорам і канфліктам з этыкай.

Выцвярэзніку штораз цяжэй спраўляцца са сваімі функцыямі, бо пацыентаў з году ў год прыбывае. Летась за першыя два тыдні папала тут 235 асоб, сёлета 264. Да таго ў Беласток звозяць пацыентаў з усяго ваяводства, напрыклад з Монькаў або Гайнаўкі, бо нідзе больш няма такой санітарна-медыцынскай установы. Тутэйшы выцвярэзнік утрымоўвае горад Беласток і ніхто не дакінецца. З пацыента бяруць 150 зл. за начлег, але многія нават і не думаюць плаціць.

Апрача колькасці, расце агрэсіўнасць пацыентаў, магчыма таму, што п'юць яны падазроныя напіткі прывезеныя з Усходу ды розныя „вынаходствы". Затое нашых суродзічаў з-за мяжы паменшала сярод гасцей выцвярэзніка. Часцей трапляюць тут хіба толькі армяне, якія процьма гандлюе на беластоцкіх рынках.

Так і не дачакаўшыся ў выцвярэзніку ні тутэйшага праваслаўнага земляка, ні суродзіча з-за мяжы, ад'язджаю дахаты. За ўсю начную змену папала тут усяго 11 асоб. Падобна, гэта значыць ніжэй нормы, было і на Сільвестра. З гэтага відаць, што гуляць культурна наш народ, нягледзячы на веравызнанне, умее. Найгоршыя тыя будні.

**Алег Латышонак**

*(працяг; пачатак у 41 н-ры за 1995 г.)*

### У руках МГБ

Апошнія дні кастрычніка. Мне паведамляюць, што на 29 вызываюць мяне ў Міністэрства асветы. Трэба падрыхтаваць справаздачу з работы школы. На ўсе бакі разаслаў я настаўнікаў за матэрыяламі для справаздачы, а сам сядзеў да позняй ночы. Падрыхтаваўся. Раненька выйшаў я ў Раканцы на аўтобус, не развітаўшыся нават з блізкімі.

У міністэрстве прынялі мяне ветліва, пра тое-сёе папыталі, пахвалілі, а напаканец запыталі, куды цяпер я пайду. „У Вілейку, у раённы аддзел народнай асветы", — адказаў я.

Задаволены выйшаў я на вуліцу. На рагу, перад касцёлам св. Анны, падышлі да мяне два нейкія тыпы і назвалі маё прозвішча. „Хто яны такія, адкуль мяне ведаюць?" — праляцела думка ў галаве. „Едзеце ў Вілейку? — адзін з іх пытаў далей. — Пойдзем, у нас свая машына". Махнуў ён рукою і машына пад'ехала. Мне ўсё стала ясна і я ўжо нічога не пытаў. Мяне арыштавалі.

У нейкім пакоі пры колішняй вуліцы Ахвярнай спісалі першы пратакол. Потым завялі мяне ў падвал гмаху МГБ. Зноў пачалося следства.

У камеры было двое літоўцаў — былых партызан. Адзін з іх быў партызанскім начальнікам у Эйшышскім раёне. Арыштантам днём спаць было забаронена. Але што нейкі час давалі ў камеру нейкую кнігу. Сядзеў тады чалавек над кніжкай і пачынаў драмаць, але тут жа адзываліся стражнікі і пачыналі крычаць: „нельзя спать!" або „ты спишь?!" Ноччу, асабліва ў першыя дні, забіралі на верх дзеля следства.

Дзесьці ў гмаху час ад часу галасна плакала дзіця. „Ці ж маіх таксама прывезлі сюды? — думаў я і гэта мяне раздражняла ды непакоіла. — За што ж цяпер мяне арыштавалі?" Аказалася, што калі я вучыўся, то належаў да студэнцкіх арганізацый; былі гэта несавецкія арганізацыі і цяпер пры савецкай уладзе я за гэта быў прызнаны вінаватым. Працаваў я ў сваім жыцці таксама і ў несавецкіх установах, за што таксама абвінавачвалі. Падчас вобыску ў кватэры забралі, між іншым, выдадзеную ў 1919 годзе ў Варшаве кніжку „Крэсы всходне", якую цяпер, у 1952 г., прызналі антысавецкай. Прызначылі мне следчага, маладога, якому я мусіў быў расказаць, чым займаўся раней. І вось стаў ён выклікаць мяне ўначы і патрабаваць, каб я яму расказваў пра сваё жыццё. Сам ён быў з Бабруйшчыны. Аказалася, што ведаў ён мяне яшчэ з 1944 года, калі я быў на Камароўшчыне дырэктарам школы. Ён тады лічыў мяне ўсход-

ным, узяў я яго да сябе на работу. Цяпер яна так мне аддзячыла. У мяне не было б да яе жалю, калі б яна гаварыла праўду. „Прыпомні, — звярнуўся я да яе, — ці ты не памыляешся. Я ж на мітынгах не быў". „Быў", — пацвердзіла яна.

Следства цягнулася, а вёў яго, наколькі я зарыентаваўся, Ленскі, яўрэй з ковенскай Літвы. Яго начальнікам быў нейкі расеец. Абодва яны не былі мясцовымі жыхарамі, не жылі тут ні пры польскай уладзе, ні пры нямецкай акупацыі. Не ведалі яны ранейшага тут жыцця, таксама як іх начальнікі. Усе дзеянні мясцовых людзей ацэньвалі яны так, быццам бы тыя адбываліся ў Савецкім Саюзе, пры савецкай уладзе і расцягвалі на іх пазнейшыя савецкія законы.

Калі на допытах расказваў я пра ўчыненыя акаўцамі на Лідчыне пры нямецкай акупацыі забойствы мясцовага насельніцтва, адзін з начальнікаў адказаў: „Нам няма да гэтага ніякага інтарэсу, калі польскія нацыяналісты забівалі нацыяналістаў беларускіх". Як відаць, тыя беларусы, якія падтрымалі савецкую ўладу ў Заходняй Беларусі ў 1939—1941 гадах, супрацоўнічалі з ёю, за што іх пазней расстрэльвала АК, у вачах прыехаўшых цяпер сюды начальнікаў МГБ лічыліся ўсяго беларускімі нацыяналістамі. Што ж было з такімі начальнікамі гаварыць?

Следчыя прыходзілі да мяне са штораз новымі прозвішчамі вядомых у Вільні беларусаў, патрабуючы ад мяне абвінавачваючых іх паказанняў. Выглядала, што хацелі зрабіць з імі тое ж, што і са мною.

У лютым 1953 г. следства закончылася. Згодна з крымінальным кодэксам Расейскай Савецкай Федэратыўнай Сацыялістычнай Рэспублікі быў я абвінавачаны ў злачынствах, прадугледжаных у артыкуле 58, пункты 3, 4 і 10. На суд мяне завезлі на спецыяльнай машыне так, каб ніхто не мог пабачыць, як мяне саджалі ў яе і як выводзілі. Я таксама нікога не мог пабачыць. Пачаўся судовы разбор. На зале быў брат Язэп, некаторыя сямейнікі і знаёмыя, якія неяк даведаліся пра тэрмін працэсу. Суддзя запытаў, ці я прызнаюся да віны. „Не, — адказаў я. — Прызнаюся, што належаў да студэнцкай арганізацыі і іншых згуртаванняў, што працаваў, бо з гэтага жыў; а жыў я не ў Савецкім Саюзе і прытым супраць савецкай улады не выступаў, бо быў я малады і не меў да яе ніякага дачынення". Сведкаў, якіх я прасіў, у суд не вызвалі. Не зрабілі таксама вочнай стаўкі з асобамі, якіх я патрабаваў.

Абвясцілі прыгавор. З аднаго пункта 58 артыкула далі 25 гадоў лагера, з другога пункта таго ж артыкула — 25 гадоў, з трэцяга (за кніжку аб усходніх крэсах) — 10 гадоў. Атрымалася, адным словам, нямала. „Суд не паклапаціўся нават, каб апрацаваць свой уласны прысуд, а перапісаў толькі тое, што напісаў ужо пракурор", — пісаў я ў пазнейшых скаргах. А напісаў я іх нешта з дзесяць.

Чорным ходам вывелі мяне з суда ў машыну. Дарма пільнавалі сваякі і знаёмыя ў браме і на вуліцы. Не пабачылі яны мяне, ні я іх. У падвале МГБ увялі мяне ў доўгую, халодную камеру. Астаўся я сам адзін з цяжкімі думкамі. Зрабілі ўсё, каб мяне павольна знішчыць. Пры стольких гадах лагераў перада мною была толькі адна безнадзейнасць. Не хацелася і жыць. Штохвілінна праз акенца ў турэмных дзвярах заглядаў у камеру стражнік.

*(працяг будзе)*

*Віктар Ярмалковіч*

# На жыццёвых хвалях

Абвінавацілі мяне таксама ў трыманні крамольнай літаратуры.

Са Шчучына прывезлі тры жанчыны: жонку бурмістра пры нямецкай акупацыі Ліневіча, нейкую багамолку Марыю Зінкевіч і Надзю Будзіловіч, тады ўжо пад іншым прозвішчам. Яны паказалі, што падчас нямецкай акупацыі выступаў я на нейкіх мітынгах і рознае гаварыў на Сталіна. Хаця я на мітынгах не толькі што не выступаў, але і не быў на іх, то як мне, апынуўшамуся пад замком, даказаць сваю невінаватасць? Пры жыцці Сталіна, у часе культу яго асобы, абвяргнуць абвінавачанні было проста немагчыма.

Не меў я жалю да жонкі бурмістра Ліневіча, ні да цёмнай багамолкі Зінкевіч. Былі гэта людзі з акаўскага лагера, якія выдавалі немцам, а то і самі забівалі нашых людзей. Але Надзя Будзіловіч, свая... Яе мужа ў час акупацыі забілі акаўцы. Ёй самой, як адзінокай асобе, пагражаў вываз на прымусовыя работы ў Нямеччыну. Пасля, калі яе бацька стаў беспрацоў-

# ГОСЦІ „НІВЫ"

12 студзеня г.г. нашу рэдакцыю наведаў генеральны консул Рэспублікі Беларусь у Польшчы **Міхаіл Слямнёў**, які пажадаў супрацоўнікам „Нівы" і яе чытачам добрага здароўя і вялікіх поспехаў у Новым 1996 годзе.



*Консул Міхаіл Слямнёў у размове з журналістамі "Нівы" Я. Міхановічам і А. Латышонкам.* **Фота Ады Чачугі**

15 студзеня гасцямі нашай рэдакцыі былі віцэ-міністр культуры і мастацтва Польшчы **Міхал Ягела**, дырэктар Бюро па справах культуры нацыянальных меншасцей **Ежы Бісяк** і дырэктар Аддзела культуры Ваяводскай управы **Казімеж Дэркоўскі**. Прадстаўнікі цэнтральных і ваяводскіх улад цікавіліся эканамічнай сітуацыяй „Нівы", яе тыражом, выказвалі свае заўвагі наконт зместу нашага тыднёвіка, расказвалі пачутыя імі звесткі пра „Ніву", выказаныя нашымі найбольш „уважлівымі" чытачамі. Аказваецца, самі пра сябе мы не ўсё ведалі.



*Дырэктар Ежы Бісяк і віцэ-міністр Міхал Ягела ў рэдакцыі.* **Фота Ады Чачугі**

# Беларускі каляндар на 1996 г.

Пры канцы 1995 г. выйшаў у Мінску „Каляндар Беларускага грамадска-культурнага таварыства на 1996 г." Падзея незвычайная з увагі на час выдання. Апошнімі гадамі беластоцкія калекцыянеры гэтага штогодніка атрымоўвалі яго з парумесячным спазненнем. Каляндар падрыхтавала да друку мінскае выдавецтва „Беларусь", а яго рэдактарам з'яўляецца Уладзімір Юзвюк. Пасля пару спробаў змены характару яго рэдагавання, вярнуўся ён да традыцыйнай формы, якая была выпрацавана ў шасцідзесятых гадах. Змест „Календара" пачынаецца песняй на словы Алеся Барскага „Беласточчына — душы маёй калыска". Зараз пасля змяшчацца каляндарная частка, пераплеценая кароткімі звесткамі дэмаграфічнага, эканамічнага і гістарычнага характару. Тут таксама чытач можа асвяжыць памяць і прыпомніць сабе, калі нарадзіўся Маркс, Ленін, калі пачалася Кастрычніцкая рэвалюцыя

Безумоўна, найцікавейшыя старонкі календара гэта тыя, якія запоўнілі ўспаміны Уладзіміра Юзвюка, Віктара Шведа, Міхася Хмялеўскага, Ніны Цыванюк, прысвечаныя пачаткам дзейнасці БГКТ. Для аўтараў быў гэта час рамантычнага перыяду ў іх жыцці. Нічога дзіўнага затым, што вобраз пяцідзесятых ці шасцідзесятых гадоў выглядае ў іх успамінах вельмі прывабна. Гэтая частка „Календара" з'яўляецца знакамітым матэрыялам для даследавання нацыянальнай свядомасці беларусаў Беласточчыны, іх светапогляду і палітычных сімпатыяў, а таксама ўяўленняў пра нацыянальную палітыку „народнай улады".

Падобную вартасць прадстаўляе артыкул Кастуся Масальскага, азагалоўлены „Чым для мяне было БГКТ", у якім аўтар расказвае, як паасобныя фактары паўплывалі на развіццё нацыянальнай свядомасці, што ў канцы прывяло яго ў рады Таварыства. „Была гэта арганізацыя, — піша спадар Масальскі, — дзе панавала згода, давер, і ўзаемнае разуменне", а з журналістамі „Нівы" захоўваліся „цесныя і сардэчныя адносіны".

Не менш цікавы з сацыялагічнага пункту гледжання матэрыял прадстаўляе сабою інтэрв'ю Зінаіды Навіцкай з былым дырэктарам Бельскага беларускага ліцэя Аляксеем Карпюком, які расказвае пра апеку БГКТ і „Нівы" над школьніцтвам у сямідзесятых гадах. „БГКТ, — гаворыць А. Карпюк, — у сваім статуце запісала, што будзе апекавацца беларускім школьніцтвам. Гэтаму запісу БГКТ было вернае ад першага дня свайго існавання па сённяшні дзень... БГКТ клапацілася пра тое, колькі вучняў вывучае беларускую мову... Орган БГКТ „Ніва" папулярызавала беларускія ліцэі з той мэтай, каб лепшыя вучні, выпускнікі пачатковых школ, прыходзілі ў нашыя ліцэі. Памятаю я артыкул, надрукаваны ў „Ніве" ў 1974 годзе пад назвай „Калі ласка ў бельліцэй"... Папулярызацыя нашай школы на старонках „Нівы" была ўсебаковая. Расказвалася аб алімпіядах і настаўніках, якія рыхтавалі вучняў, паказваліся дасягненні ў дэкламатарскіх конкурсах, конкурсах песні і драмгурткоў... Папулярызацыя ліцэяў на старонках „Нівы" давала нам магчымасць працаваць з больш здольнай і амбіцыйнай моладдзю і неабазлівай. У наш ліцэй прыязджалі дзеячы БГКТ на сустрэчы з моладдзю. Асабліва ўрачыстыя хвіліны былі тады, калі ў прысутнасці ўлад Таварыства і ўсіх вучняў моладзь атрымлівала членскія білеты БГКТ". У гэтай так цікавай, доўгай размове няма аднак ні аднаго слова рэфлексіі наконт рэчаіснага стану беларускага школьніцтва на Беласточчыне ў сямідзесятых гадах.

Гістарычныя тэмы ў „Календары" прадстаўляюць Мікола Гайдук, які піша пра берасцейскую унію, Аляксандр Баршчэўскі — пра „Нашу Ніву" і Уладзімір Юзвюк, які яшчэ раз вяртаецца да традыцый Беларускай сялянска-работніцкай грамады на Беласточчыне.

У „Календары" змяшчаюцца таксама віншаванні з нагоды 40-годдзя БГКТ ад вядомых палітыкаў з Польшчы і Беларусі.

Гэты штогоднік, як і ўсе папярэднія, з'яўляецца перш за ўсё дакументам, адлюстроўваючым настроі, палітычныя сімпатыі і антыпатыі вялікай часткі беларускага грамадства ў Польшчы. Нават тады, калі аўтары пішуць пра далёкую мінуўшчыну, у іх творах знаходзіцца шмат інфармацый пра сучаснасць.

**Я. М.**

---

*Беларускі каляндар 1996, Мінск 1995, рэд. У. Юзвюк, с. 200.*

# Армія Краёва ў Беларусі

Нядаўна паказалася на Беласточчыне кніжка беларускага эміграцыйнага дзеяча з Вялікабрытаніі Юры Весялкоўскага, азагалоўленая „Што прывяло Армію Краёву на Беларусь"*/. Напачатку аўтар адзначыў, што ў беларускай гістарыяграфіі гэтая тэма амаль 50 гадоў была белай плямай. Саветы ў імя дружбы сацыялістычных народаў не кранalі балючых тэмаў, асабліва тых, якія іх кампраметавалі. Палякі пісалі пра Армію Краёву ў Беларусі так, як быццам бы пра нацыянальна-вызваленчы рух недзе ў ваколіцы Кельцаў ці Варшавы. Ніхто не ставіў асноўнага пытання, што рабіла гэтая арганізацыя на беларускай зямлі.

Каб лепей высветліць гісторыю польска-беларускіх адносін падчас II сусветнай вайны, Весялкоўскі вяртаецца да ранейшага перыяду і праводзіць аналіз палітычных працэсаў, якія праходзілі ў Беларусі ад часу Вялікага княства Літоўскага аж да пачатку нямецка-савецкай вайны ў чэрвені 1941 г. Наступныя раздзелы кніжкі прысвячаюцца фарміраванню польскага падполля і ўзаемаадносінам паміж нямецкімі акупацыйнымі ўладамі, беларускім палітычным рухам, Арміяй Краёвай і савецкім падполлем. Гэтая асноўная частка апрацоўкі Юры Весялкоўскага паказвае, што на беларускай зямлі змагаліся за свае інтарэсы тры імперыяльныя сілы, а ахвярамі гэтай чужой барацьбы было беларускае насельніцтва.

Акаўцы, якія выконвалі палітычныя дырэктывы лонданскага ўрада, імкнуліся перш за ўсё забяспечыць вяртанне польскай дзяржавы на тэрыторыю вызначаную Рыжскім трактатам ад сакавіка 1921 г. Усе праявы беларускай палітычнай, культурнай, ці асветнай дзейнасці на захад ад рыжскай мяжы лічыліся імі як пагроза для польскіх дзяржаўных інтарэсаў.

Ва ўмовах нямецкай акупацыі сілы, якія прадстаўлялі структуры падпольнай польскай дзяржаўнай улады, не маглі абмяжоўваць беларускага руху так, як рабілася гэта ў час II Рэчы Паспалітай — пры дапамозе цэнзуры, адміністрацыйных і фінансавых рэпрэсій, турмаў і гэтаму падобных дзеянняў. Адзіным сродкам, які дазваляў працягваць міжваенную палітыку, аставалася тады фізічная ліквідацыя беларускіх актывістаў, абвінавачаных раней у калабарацыянізме з нямецкімі акупантамі. Падобную палітыку праводзіла савецкае падполле, якое ўсю тэрыторыю Беларусі лічыла неад'емнай часткай Савецкага Саюза. Таму і з гэтага боку не было дазволу на якую-небудзь беларускую дзейнасць. Немцы не бачылі для сябе пагрозы ў існаванні беларускіх школ, культурнай і выдавецкай дзейнасці, таму не абмяжоўвалі гэтага руху. Але кожная беларуская ўстанова, якая ўзнікла з нямецкага дазволу, успрымалася палякамі і саветамі як здрадніцтва. Гэтыя палітычныя абумоўленасці паўплывалі на асабліва крывавы характар перыяду нямецкай акупацыі ў Беларусі. Усе змагаліся тут з усімі, але ахвярай гэтай вайны было найчасцей невінаватае мірнае беларускае насельніцтва. Не мела яно ніякага палітычнага цэнтра, які прадстаўляў бы яго інтарэсы.

Юры Весялкоўскі напісаў сваю кніжку, выкарыстоўваючы літаратуру, створаную палякамі і беларусамі. Шмат кніжак і часопісаў, якія кранаюць тэму Арміі Краёвай у Беларусі, можна знайсці толькі ў заходнееўрапейскіх архівах, створаных той эміграцыяй. Аўтар не абмежаваўся толькі да апісання беларускага пункту гледжання на гэтую тэму, але прадставіў таксама погляд польскіх гісторыкаў, палітыкаў, удзельнікаў акаўскага руху ў Беларусі.

Адзін раздзел кніжкі аўтар прысвяціў Арміі Краёвай на Беласточчыне.

**Рэд.**

---

**/ Ю. Весялкоўскі, Што прывяло Армію Краёву на Беларусь, Лондан 1995, с. 191.*

## Што, дзе ў Бельску

Пры камуністах усё лічылася дзяржаўнай тайнай. На абы-якім ГСаўскім складзе, як патэнцыяльным аб'екце для шпіянажу, вісела перасцярога: „Фатаграфаваць забаронена!" Дакладныя геаграфічныя карты і планы гарадоў былі гатовым, пакладзеным на далоні матэрыялам для любога ворага, якіх — сапраўдных і ўяўных — тады хапала. Таму прыгожыя, каляровыя і, найважнейшае, дакладныя даведнікі друкаваліся тады толькі на Захадзе.

Тое, што цяпер у кнігарнях процьма разнавідных даведнікаў са здымкамі і падрабязнымі планамі, гэта таксама знак часу, рэзультат дэмакратычных перамен.

Напрыканцы мінулага года паявіўся падрабязны (маштаб 1:7500) план Бельска-Падляшскага. Выдаў яго, па даручэнні Гарадской управы, Фонд на карысць лакальнага развіцця. Графічная апрацоўка і камп'ютэрны склад — Юркі Паплаўскага.

План надзвычай празрысты, выгадны ў карыстанні, узбагачаны цэлым шэрагам карысных інфармацый, пачынаючы з алфавітнага спіска вуліц, а канчаючы на раскладзе аўтобусаў і цягнікоў. На адваротным баку знойдзеце таксама рэкламу фірмаў, важнейшыя тэлефоны, нататку пра гісторыю і сучаснасць горада. На плане пазначаны самыя розныя паслуговыя пункты.

Невядома як шпіёнам, але звычайным людзям гэты план напэўна дапаможа знайсці тое, што ім патрэбнае ў Бельску.

**М. В.**

# Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## Калядоўшчыкі

У час Каляд я мела нагоду сустрэцца з многімі калядоўшчыкамі. У вёсцы Трасцянка, што на трасе Беласток — Гайнаўка, я далічылася аж пяці дзіцячых груп. Цікавая з’ява наступіла. Дзеці з Беластока, Гайнаўкі калядуюць у вёсцы сваіх дзядоў. На святы прыязджаюць разам са сваімі бацькамі, бо тут адчуваюць сябе найлепш.

— У Беластоку не адчуваецца святочнага настрою, — скажуць вам многія.

Гарадскія дзеці ідуць калядаваць са сваімі вясковымі аднагодкамі.

У маю родную вёску Катлоўка таксама завіталі калядоўшчыкі. Найперш прыйшлі дзеці аднавяскоўцаў. Гэта была, можна сказаць, сямейная група. Разам з вясковымі дзяўчатамі калядавалі хлапчукі з Нарвы, сваякі. Ужо другі год як супольна так калядуюць. Дзеці спявалі беларускія калядкі і на такой жа мове выказвалі гаспадарам пажаданні. Іншыя дзеці, якія не разлічвалі на прыезд сваякоў, спалучыліся з аднагодкамі з суседняй вёскі Навіны. Раней такога не было. Кожны бараніў перад чужымі сваю тэрыторыю.

Прыемна было гасціць дзве групы з вёскі Лапухоўка. Дзяўчаты (як аказалася — чытачы „Зоркі”) спявалі чароўную падляшскую калядку „Каляда, каляда”.

За імі з’явіліся вучні сярэдніх школ. Моладзь з Лапухоўкі хадзіла з прыгожай, каляровай „гвяздай”. У планах было яшчэ наведанне Тыневіч-Вялікіх і Малых.

— Больш хіба не паспеем, — сказалі калядоўшчыкі.

Ад іх я даведалася, што многія хаткі, да якіх заходзілі, ужо пустыя. Толькі ў іх вёсцы прыстойная колькасць жыхароў.

На Падляшшы дзеці калядуюць у першы дзень свята. Гэты дзень называюць тут *Руздвом*. Пазней, аж па Трох Каралёў, ходзяць калядаваць старэйшыя кабеты, якія збіраюць грошы пераважна на сваю царкву.

Сустракаць калядоўшчыкаў прыемна. Відаць, што дзеці развучваюць свой рэпертуар на ўроках рэлігіі або беларускай мовы. За падтрымку гэтай арыгінальнай традыцыі трэба падзякаваць усім дзецям і настаўнікам.

**Зорка**











З гісторыі Беларусі

## Віленскія пакутнікі

У Вільні непадалёк Вострай Брамы ў скляпеннях Свята-Троіцкай царквы захоўваюцца мошчы святых пакутнікаў — Антонія, Іаана і Яўстафія. Былі яны беларускімі місіянерамі і прапагандавалі Хрыстовую веру сярод паганскіх балтаў. Місіянерскую дзейнасць праводзілі яны пры падтрымцы князя Альгерда, які зацікаўлены быў у пашырэнні хрысціянства ў сваёй дзяржаве. Антоній, Іаан і Яўстафій загінулі пакутніцкай смерцю ў 1347 г. У 1374 годзе часткі мошчаў беларускіх віленскіх пакутнікаў былі перанесеныя ў славуты сабор Святой Сафіі ў Канстанцінопалі, дзе ахоўваліся як вялікія агульнаправаслаўныя святасці. Свята-Троіцкая царква ў Вільні, дзе знаходзяцца мошчы св.св. Антонія, Іаана і Яўстафія з’яўляецца цяпер месцам пілігрымак праваслаўных вернікаў з усяе Усходняй Еўропы.

Вучнёўская творчасць

**Дарагая „Зорка”!**

Я вельмі рада, што мая сяброўка Анеля Сушч, якую крыху ведаю, напісала Вам. Цяпер і мне стала вядома, што не трэба баяцца (так як я заўсёды). Я — вучаніца трэцяга класа II Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання імя Б. Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім. Мяне завуць Анеля Місіюк. У пачатковай школе я не вывучала беларускай мовы і цяпер мая граматыка і некаторыя словы напісаны дрэнна. Буду старацца, каб добра вывучыць беларускую мову, не толькі таму, што я вучуся ў маім беларускім ліцэі, а яшчэ і таму, што я па нацыянальнасці — беларуска. Мне вельмі памагла і памагае мая прафесар Зінаіда Дзямянюк. Я чытаю „Ніву”. Яна памагае мне лепш пазнаць беларускую мову, сучаснасць і гісторыю Беларусі і беларусаў, якія жывуць у Польшчы.

Я здаўна пішу вершы на польскай мове. Цяпер я напісала тры вершы па-беларуску. А вось мой верш:

### Канец

усё знікла
залежала мне на цені
калі настала ноч
ён знік
для мяне заўсёды будзе змрок
муры дома клічуць літасці
кроў сплывае па сценах
боль выціснуў кляймо
на кавалку мяса
якое калісь было маім сэрцам
апошнія астаткі пачуцця
не змогуць выбрацца
вонкі
не ведаю ці калі-небудзь
узыдзе для мяне сонца.

**Анеля Місіюк**

**Ад рэдакцыі:** Дзякую за цікавы ліст і прыгожы верш. Прапаную табе прыняць удзел ў паэтычным конкурсе, пра які пісала „Ніва”. Твой верш зрабіў на мяне моцнае ўражанне!

**З-ка**

Талон "Зоркі" н-р 4
28.01.1996

# Вайна лісіцы з ваўком

*(народная казка)*

Есць лісіца мяса. Прыходзіць воўк ды кажа: „Кумка-галубка, дай мне, бо калі не дасі, дык пайду на цябе вайною!” Лісіца на злосць і не дала. Тады раз’юшаны воўк пайшоў шукаць сяброў. Якраз на дарозе сустрэў мядзведзя і прыйшлі ўдваіх. Падгаварылі яшчэ кабана-дзіка. Усе асталіся чакаць, калі лісіца прыйдзе ваяваць.

Лісіца пайшла таксама шукаць кампанію. Прыйшла ў вёску, пабачыла сабаку і папрасіла ў яго дапамогі. Ката, што вылежваўся на печы, таксама папрасіла. Пеўня намаўляла доўга, але той не згаджаўся, бо баяўся, што яго самога ліса з’есць. Але сабака і кот яго ўгаварылі і ў канцы певень згадзіўся.

Пад вечар сабраліся ўсе і пайшлі ваяваць. Ісці трэба было цэлую вярсту. Там, дзе знаходзіўся воўк, было многа дрэў. Мядзведзь залез на дуб і назіраў за лісіцай і яе дружынаю.

Пабачыўшы кульгавага сабаку, мядзведзю здалося, што той збірае камяні, і кажа ён ваўку:

—Ідуць! Адзін збірае камяні, другі нясе штык і афіцэр з чырвонаю стужкаю імі камандзіруе.

Так падумаў, пабачыўшы ката з задзертым хвастом і пеўня з чырвоным грабянём.

Надумаліся сябры ваўка схавацца, каб знянацку кінуцца на ворага. Кабан схаваўся ў зямлю, воўк у кучу галля, мядзведзь на дубе астаўся.

Прыйшла лісіца на месца, дзе схаваліся ваякі. Кабан урыцца — урыўся, але хвост наверсе. Кот падумаў, што гэта мыш ды як скочыць на яго! Кабан як закрычыць, ды ходу! А кот са страху на дуб. Мядзведзь падумаў, што кот па яго лезе, ды з усяе сілы „гоп” з дуба на кучу галля, каб троху, дык на пеўня папаў бы. Певень саскочыў на кучу галля, крычыць: „Кудах! Кудах!”, а воўк падумаў што: „Хлопцы, сюды!” — і паўцякалі ўсе вялікія звяры-ваякі.

Так малыя звяры зваявалі вялікіх.

**А. А.**

Цікава ведаць

# Боты, боты...

Першыя боты зрабілі даўно-даўно.

Там дзе людзі займаліся паляваннем, абутак рабілі са скуры. Тонкія палоскі скуры шылі раменем. Такія боты называюцца макасінамі. Сёння носяць іх яшчэ індзейцы.

Там, дзе займаліся земляробствам, абутак рабілі з раслін і драўніны. **Беларусы хадзілі ў лапцях з ліпавага лыка, якія майстэрна плялі вясковыя мужчыны.** У Польшчы насілі хадакі, выструганыя з дрэва лапці.

У Егіпце і Грэцыі хадзілі ў сандалях з лыка або са скуры. У Рыме выраблялі сандалі двух відаў. Адны надзявалі толькі ў хаце, а другія — з грубай падэшвай і спераду шнураваныя — насілі на двары.

А што было пазней?

Недзе 600 гадоў таму пайшла мода на скураны абутак з доўгімі, закручанымі наскамі. Былі яны непрактычныя, невыносна невыгодныя і таму людзі хадзілі ў іх асцярожна і „важна”.

Яшчэ больш невыгодныя былі т.зв. патынкі, жаночыя туфлі без пят, на драўляных 10-сантыметровых абцасах. Жанчыны карысталіся дапамогай службы, бо ісці самой было ў патынках немагчыма. 400 гадоў таму паявіліся першыя абцасы. Кароль Францыі Луі XIV насіў скураныя боты на абцасе, абцягнутым чырвонай скурай. Беларуская шляхта ў часы Вялікага княства Літоўскага надзявала боты з чырвонай або жоўтай скуры, а мяшчане — з чорнай або шэрай. Гэтыя боты былі па калена. Самыя багатыя казалі вышываць іх залатой ніццю. Перад тым, як іх надзяваць, акручвалі ногі палатнянымі хустамі, а ўсярэдзіне высцілалі саломай. Толькі 300 гадоў таму пачалі насіць шкарпэткі. Пазней боты прыдумвалі больш практычныя, бяспечныя і элегантныя. Зараз карыстаемся ўсімі відамі ботаў, якія паўставалі на працягу многіх стагоддзяў.

**А. А.**

*(паводле „Пентлічка”, н-р 47)*

# Польска-беларуская крыжаванка н-р 4

Запоўніце клеткі беларускімі словамі паводле значэнняў, што на польскай мове. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце ў „Зорку” на працягу трох тыдняў. Сярод аўтараў правільных адказаў разыграем узнагароды.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | MARZE-NIE ↓ | | ŁAD ↓ / RZĄD ↓ | | SAMICA PAWIA ↓ / ZAPACH ↓ | | WODA ↓ / BIEG ZDARZEŃ ↓ | |
| NÓŻ → | | | | | | | | |
| RODOWÓD → | | | | | | | | |
| GAD → | | | | CHÓD → | | | | |
| * Наш слоўнік PAW – ПАЎЛІН. | | | | | | | | |

**Адказ на крыжаванку н-р 12:** юха, павук, раса, рог, зара, мароз, вага, хлус, каза.

Узнагароды — касеты славутай „Журавінкі” са спеўнікамі — выйгралі:

1) **Дарак Баена** з Бельска-Падляшскага,
2) **Анджэліка Сельвясюк** з Бельска-Падляшскага,
3) **Ірэна Кулік** з Тафілаўцаў,
4) **Бася Парфянюк** з Бельска-Падляшскага,
5) **Марта Федарук** з Бельска-Падляшскага,
6) **Івона Міранчук** з Нарвы,
7) **Пятрусь Янкоўскі** з Бельска-Падляшскага,
8) **Марта Раманюк** з Бельска-Падляшскага.

Віншуем!

---

**Рашэнне конкурсу „Старажытныя гарады Беласточчыны”**

Найстарэйшымі гарадамі Беласточчыны з’яўляюцца: Драгічын, Мельнік, Бранск, Бельск-Падляшскі, Сураж, Гарадок, Крынкі, Нарва, Кляшчэлі, Заблудаў, Сямяцічы.

Узнагароду — гадзіннік — выйграла **Івона Янцэвіч з Чыжоў.**

Віншуем!

# ВЕРШЫ ВІКТАРА ШВЕДА

**Мае Колька іграць толькі**

— Чаму ж сынка свайго, Міколу,
У музычную паслалі школу?
А ён, як на якое ліха,
Нават за грош не мае слыху.

— Навошта тут сыночку вуха,
Ён музыку не мае слухаць,
Вучыцца мае сынок, Колька,
Іграць на інструменце толькі.

**Ягорка і горка**

Зімняй раніцай Ягорка
Ужо быў на панадворку.
З санкамі зваліўся з горкі,
Заблішчэлі ўваччу зоркі,
У снезе выбіў целам норку,
Тварык стаў шурпатай коркай.
І заплакаў хлопчык горка.
Пры няўдачлівым аўторку
ісці трэба да дакторкі.

**З размоў малышоў**

Сустрэлася ў парку
Малышоў парка.
Прыехалі ў калясках
З матчыных абавязкаў.

— Ці добры твой вадзіцель? —
Спытаў з каляскі Віця.
— Запаволены пад горку, —
Адказаў Ягорка.

# У Грабаўцы

У Грабаўцы, што ў Дубіцкай гміне, сціплая жменька вучняў. Разам з дашкольнікамі ўсяго трыццаць навучэнцаў. Усе яны пацікавіліся сустрэчай з „Зоркай”. Прадстаўляць нашую старонку не было патрэбы. Як высветлілася, і тут ёсць верныя чытачы „Зоркі”. Найстарэйшыя вучні — сямікласнікі (у гэтым годзе няма тут восьмага класа) — гаварылі найбольш. Расказвалі яны пра мінулыя святкаванні Каляд. У Грабаўцы калядаваць хадзілі ўсе дзеці. Сярод калядак найбольш папулярнымі былі беларускія творы „Учора з вячора” і „Ціхая ноч”.

— Развучылі іх мы дзякуючы касетным запісам, — сказалі нядаўнія калядоўшчыкі.

Усе сямікласнікі — паклоннікі гурту „Ас”. Хлапчукі чулі таксама пра вядомага Скамароха, ураджэнца іхняй вёскі. На жаль, у школе не было ніякай інфармацыі пра гістарычную ролю вёскі Грабавец. Школьнікі затое цёпла ўспаміналі сустрэчу з пісьменнікам Васілём Петручуком, які родам таксама з іх вёскі. У Грабаўцы амаль усе дзеці вывучаюць беларускую мову.

Гэтага прадмета навучае тут беларусістка Валянціна Андрасюк.

— На перапынках, у хаце дзеці размаўляюць на палескім дыялекце, — заўважыла настаўніца.

У канцы сустрэчы мае новыя сябры рассакрэцілі важныя планы. За два дні выпадала гагатуха (традыцыйны вечар перад Новым Годам). Усе хлапчукі збіраліся хаваць гаспадарам вазы і брамы.

У вёсцы яшчэ жывуць старадаўнія традыцыі. Прыемна сустракацца з такімі дзецьмі.

**Ганна Кандрацюк**
**Фота аўтара**



*Дзеці з Грабаўца з настаўніцай беларускай мовы Валянцінай Андрасюк.*

# Праваслаўны Францішак Скарына

Кнігу Алены Яскевіч **Творы Ф. Скарыны. Жанравая структура. Філасофскія погляды. Мастацтва слова** Іван Навуменка назваў першай кнігай скарыніяны дваццаць першага стагоддзя.

— *Чым выклікана з'яўленне гэтай кнігі?* — звяртаюся да аўтаркі, маладой даследчыцы з Менска.

— Прадмовы, казанні, пасляслоўі Ф. Скарыны, як і сам біблейскі пераклад да гэтай пары ў асноўным разглядаліся ў скарыназнаўстве як ускосная крыніца даследавання сістэм асветніцкіх, філасофскіх, гістарычных, заканадаўчых поглядаў беларускага кнігадрукара і перакладчыка *Святога Пісання*, знакамітага доктара медыцыны і навук вызвалёных. Настаў час уласна прафесійнага аналізу галоўнага корпусу скарынаўскай спадчыны — экзегетычнага і перакладазнаўчага вывучэння біблейскага тэксту пражскіх і віленскіх выданняў — і разгляду жанравай прыроды прадмоў і пасляслоўяў у іх узаемазалежнасці між сабой і ў адносінах да аснаўнога, біблейскага тэксту. Францішку Скрыне прысвечана больш даследаванняў і распрацовак, чым іншым постацям у гісторыі беларускай культуры. Упершыню Скарына разглядаўся як мастак слова, арыгінальны філасаф-экзегет, лінгвіст-моватворца.

— *Думаю, што нашага чытача вельмі цікавіць справа праваслаўнасці Ф. Скрыны.*

— У даследаванні творчасці Скрыны ўкаранілася прыкрая непаслядоўнасць, якая існуе нават у навейшых працах. Скарыну, можна сказаць, прадпісваюць „вучнёўства" ў дзеячаў еўрапейскага Рэнесансу і Рэфармацыі, выдаючы гэта за навейшыя дасягненні нашага філасофа і асветніка. Хоць самы яго творы, глыбока самастойная экзегеза яго прадмоў, артадаксальны характар яго апалагетыкі і гімнаграфіі ўказваюць на зусім іншыя, а менавіта на крыніцы ўсходняй патрыстыкі, хрысціянскага багаслоўя ў цэлым. Да якога веравызнання Скарыну толькі не адносілі! Для аўтараў пракаталіцкай арыентацыі ён безумоўны католік, пратэстанцкія даследчыкі імкнуліся далучыць яго да Рэфармацыі, у той час як праваслаўныя аўтарытэты на багатым фактычным матэрыяле яго спадчыны даказваюць паслядоўна праваслаўную арыентацыю вучонага. Аб яго праваслаўнай прыналежнасці і арыентацыі на ўсходнюю патрыстыку сведчыць увесь разнастайны корпус фактаў з яго жыцця і дзейнасці, а кананічная паслядоўнасць праваслаўнай літургіі ў яго віленскіх выданнях, па сведчанні аўтарытэтаў, мала ў чым адрозніваецца ад набажэнства ў сучасным праваслаўі. Як зазначае В. Дышыневіч, „у Скрынінскіх прадмовах да Бібліі выкарыстаны творы ўсходняй патрыстыкі, даводзяцца хрысціянскія догматы без пазнейшых каталіцкіх дапаўненняў, *Малая падарожная кніжка* ўяўляе сабой зборнік адпаведных богаслужэбных тэкстаў, у ёй змешчаны праваслаўны *Сімвал Веры*, ёсць малітва „праваслаўных хрысціян", без абавязковага для каталікаў і уніятаў упамінання імя папы рымскага, дадзены *Месяцаслоў* з імёнамі праваслаўных святых. Змест яе сведчыць аб добрым веданні самой традыцыі складання праваслаўных царкоўных кніг (па сутнасці, гэта традыцыйны *Псалтыр* з паследаваннем). У перакладзе *Бібліі* адчуваецца глыбокае веданне славянскіх спісаў ад часоў Мяфодзія і Кірылы". Поўную яснасць у спрэчкі маглоб унесці ўстанаўленне непасрэдных біблейскіх крыніц, што пакладзены ў аснову перакладу *Бібліі* Скарыны. Традыцыйна сцвярджаецца, што ў аснову свайго перакладу першадрукар паклаў *Генадзіеўскі звод* праваслаўнай *Бібліі* (1499 г.), лацінскую *Вульгату, чэшскую Біблію* 1506 г. у Венецыі друкаваную, невядомы пераклад *Бібліі* (г.зв. *Шарашоўскі пераклад*, зроблены спецыяльна для Сафіі Гальшанскай, чацвёртай жонкі Ягайлы, ад якой і пайшла дынастыя Ягелонаў), на кангламераце беларускай і польскай моў. А тэксталагічныя даследаванні апошніх гадоў даюць больш шырокі малюнак, указваючы на нейкі, адрозны ад Генадзіеўскага, праваслаўны звод як на асноўную перакладчыцкую крыніцу, якой карыстаўся ў сваёй працы Скарына.

— *Відаць, гаворка ідзе пра* **Супрасльскі звод Мацея Дзесятага**. *Недарма на шмуцтытуле вашай кнігі змешчана выява* **Маці Божае Супрасльскай**.

— Напачатку XVI стагоддзя паўстала рэальная пагроза разрыву саюзу Польшчы і Вялікага княства Літоўскага. Таму ў канцы праўлення Аляксандра назіраюцца карэнныя змены ў рэлігійнай палітыцы. Выклікае цікавасць устаўная грамата ад 16 ліпеня 1503 г. для Віцебскай зямлі, згодна з якой не пярэчылася вяртанню насельніцтва ў праваслаўную веру: ... *которыи будут литвин, або лях, крещены... в Витебску в русскую веру, а хто из того роду и теперь живет, того не рушити, права их хрестианского ни в чем не ломити*. Становішча праваслаўнага славянскага насельніцтва значна палепшылася пры Зыгмунце I Старым. Ён не толькі дараваў праваслаўю незалежнасць ад свецкіх уладаў, але і само першынства ў іерархіі свецкіх магнатаў аддаў праваслаўнаму князю Канстанціну Астрожскаму (1522 г.)... Са з'яўленнем поўнага славянскага спісу *Бібліі* Старога і Новага Запавету — *Генадзіеўскай Бібліі* (Ноўгарад 1499 г.), іерархамі праваслаўнай царквы пры садзейнянні вярхоўнай улады Вялікага княства Літоўскага (менавіта вялікага князя Аляксандра Ягелончыка) прымаюцца тэрміновыя захады да стварэння ўласнага праваслаўнага зводу *Бібліі*. Праца распачалася ў 1502 г. прадстаўніком вядомай манаскай сям'і Мацеем Дзесятым, усебакова падрыхтаваным багасловам, дасканалым каліграфам і мастаком (ім выканаы *Дзесяціглаў*) і была закончана ў 1514 г. дыяканам мітрапаліта Іосіфа — Фёдарам Янушэвічам (Гістарычныя кнігі і „Пяцікніжжа" Майсеева). Мікалай Нікалаеў выказаў гіпотэзу, што Мацей праз свайго брата Яўфімія, настаяцеля Прадцечанскага манастыра ў Полацку, мог быць знаёмы з Ф. Скарынам і мог бы даць у карыстанне матэрыялы па беларускаму зводу.

Існаванне самастойнага праваслаўнага зводу *Бібліі*, свайго жыццяпісу святых у Вялікім княстве Літоўскім і ў цэлым арыентацыя беларускага праваслаўя на агульную святаайцоўскую традыцыю хрысціянства дапамагае вытлумачыць тое багацце патрыстычных крыніц, якое мы назіраем у прадмовах, сказаннях і пасляслоўях Францішка Скарыны. У сваіх тлумачэннях біблейскіх кніг прама ці ўскосна скарыстоўвае ён працы Васілія Вялікага, Грыгорыя Дваяслова, Іераніма Блажэннага, Феадарыста Кіпрскага, Іеранея Ліёнскага, Ісаака і Яфрэма Сірыных, Арыгена, багаслова — гімнаграфаў Іаана Дамаскіна, Іосіфа Канстанцінопальскага і іншых.

— *А ў чым асаблівасць моўнай палітыкі Ф. Скарыны?*

— Стаяў ён у сваёй шматграннай асветніцкай, біблейска-перакладчыцкай і выдавецкай дзейнасці ля вытокаў станаўлення нацыянальнай літаратурнай мовы, у сваёй лінгвістычнай палітыцы ён паспеў зрабіць за цэлае пакаленне моўных рэфарматараў і пісьменнікаў і ў далёкім ужо ад нас XVI ст. сваёй таленавітай моватворчасцю здолеў узняць родную мову на вышыню найдасканалейшай літаратурнай мовы Еўропы. Мовы суседзяў паспеюць, як вядома, дасягнуць узроўню адпаведнай кніжнасці і літаратурнай функцыянальна-стылявой разнароднасці стагоддзямі пазней. Наша сучасная літаратурная мова не набрала яшчэ былой сваёй моцы, і прычына таму — малая ўвага да скарынаўскага напрамку развіцця, што не аднойчы адзначалі ў сваіх працах Яўхім Карскі, Іван Воўк-Левановіч, Генадзь Цыхун. Сённяшняе пакаленне мовазнаўцаў, думаю, стаіць бліжэй да ісціны, лічачы мову Ф. Скарыны асаблівым тыпам царкоўнаславянскай беларускай пісьмовай мовы, аналага якой немагчыма знайсці ў ніводнага са славян.

Запісала **Міра Лукша**

# Ліст у рэдакцыю

**Паважаны Рэдакцыйны калектыў Тыднёвіка „Ніва"**

Я — пастаянны чытач „Нівы" і таму лічу, што маю права выказаць сваё меркаванне наконт таго, што пачуў у радыёперадачы „Пад знакам Пагоні" ад 20 снежня 1995 г. пра Армію Краёву. Суразмоўцам спадара Праховіча быў нейкі гісторык з Беларусі, які на Каталіцкім Люблінскім універсітэце пісаў доктарскую працу пра дзейнасць Арміі Краёвай на Беларусі падчас нямецкай акупацыі. Не запамяталася мне прозвішча гэтага гісторыка, але тое, што ён гаварыў, было жахлівае. Паводле вучонага, які выступаў у радыёперадачы „Пад знакам Пагоні", Армія Краёва бараніла беларусаў ад нямецкіх акупантаў, савецкіх партызан і беларускай калабаранцкай „Самааховы". Далей беластоцкага слухача пераконваў ён, што „Буры", „Лупашка" ды іншыя акаўскія „героі" змагаліся толькі з камуністычнымі ўладамі, а ніколі з мірным беларускім насельніцтвам. Пан гісторык хацеў бы даказаць жывым яшчэ сведкам пасляваеннага акаўскага тэрору, што пацыфікацыі беларускіх вёсак — гэта нейкае недаразуменне і невядома ці яно ўвогуле было, а можа ўсё гэта толькі выдумка камуністычнай прапаганды. Суразмоўца рэдактара Праховіча заявіў прытым, што толькі яму ўдалося дабрацца да крыніц, якія аб'ектыўна асвятляюць дзейнасць АК на Беларусі. Ці можа быць большая крывадушнасць?

Я — як сведка акаўскай актыўнасці на Наваградчыне, хацеў бы спытаць гісторыка, які пісаў дактарат на Каталіцкім універсітэце: каму здрадзіла „Самаахова"? Яе стварылі беларускія сяляне, каб абараняць свае вёскі, сем'і, хаты, маёмасць ад лясных грабежнікаў. Пачалі арганізавацца толькі тады, калі савецкія і акаўскія партызаны ды іншыя банды гвалтам і тэрорам адбіралі ад іх апошні кавалак хлеба, апошнюю кароўку. Людзей, якія баранілі сваё жыццё і свае сем'і пан гісторык назваў калабарантамі толькі таму, што не дазвалялі акаўцам адбіраць спакойна сваю маёмасць, бяскарна страляць у беларускіх настаўнікаў. А кім жа былі людзі, якія здрадай (каму?) лічылі навуку ў беларускай школе, якія мардавалі беларускіх дзеячаў толькі таму, што жывучы на сваёй зямлі хацелі астацца сабою. Героямі, — адкажа тут вучоны.

Жывучы на Наваградчыне чуў я нешта пра змаганне АК з савецкімі і яўрэйскімі партызанамі, але пра барацьбу з немцамі даведаўся я толькі пасля вайны, калі прыехаў у Польшчу. А ўсё тое, што гаварыў гісторык з Беларусі, якога вучылі на Каталіцкім універсітэце ў Любліне, было нейкім цынічным здзекам з мінулай рэчаіснасці.

*Мой адрас, імя і прозвішча толькі да ведама рэдакцыі.*

# Вяртанне ў саракавыя гады

Айцец Рыгор Сасна з Рыбалаў выдаў сваю чарговую кніжку *), у якой дае падборку фрагментаў месячных сітуацыйных справаздач беластоцкага ваяводы за 1944—1948 гады (47 дакументаў), павятовага беластоцкага старасты за 1946—1948 гады (36 дакументаў), павятовага бельска-падляшскага старасты за 1945—1947 гады (25 дакументаў) і павятовага сакольскага старасты за 1944—1948 гады (15 дакументаў), у якіх прадстаўляецца і даецца ацэнка польскімі ўраднікамі нацыянальным і канфесійным справам на Беласточчыне за згаданы перыяд.

Падборку дакументаў папярэджваюць аж тры ўступныя словы Казімежа Урбана, Сакрата Яновіча і Яўгена Міранові ча (у апошнім выпадку — на беларускай мове) і ўводзіны аўтарства Славаміра Іванюка, якія ў даволі шырокім дыяпазоне растлумачваюць усе нюансы таго часу ў кантэксце закранутых спраў. Ахарактарызоўваецца і сам матэрыял, які падабраў а. Рыгор Сасна.

Казімеж Урбан сцвярджае м.інш., што „lektura tych dokumentów skłania do refleksji i zadumy, pozwala na formułowanie określonych sądów — z odległej już perspektywy historycznej". Аўтар заахвочвае таксама а. Рыгора, каб той працягваў падборку дакументаў, ставараючы іх цэлую серыю, паколькі „spełni ona bowiem nie tylko funkcję edukacyjno-informacyjną, ale i przypomni niektórym środowiskom, także historyków, rzeczywisty przebieg wydarzeń itp., związanych z prawosławiem i ludnością białoruską na tym terenie po sierpniu 1944 roku".

Для Сакрата Яновіча апублікаваныя больш істотныя фрагменты сітуацыйных справаздач з'яўляюцца „z dzisiejszej perspektywy ważnym dokumentem historycznym dla badacza dziejów obecnej białoruskiej mniejszości narodowej i nie tylko, zresztą". Адначасова засцерагаецца ён, што „ten materiał, a zwłaszcza niektóre jego partie, należy odczytywać z dużą ogłędnością, widoczna jest bowiem w nich spora niedbałość zapisów, często powierzchownych w swej trudności, jak i formułowanych nierzadko pod kątem potrzeb prowadzonej gry z centrum krajowym". Нягледзячы на тое, матэрыял усё ж дае „przejrzysty ogląd z lotu ptaka ruchu zjawisk w Białostockiem".

Яўген Міранові ч у сваю чаргу заўважае, што „дакументы, змешчаныя ў кніжцы, паказваюць цыркуляцыю дзяржаўнай палітыкі ў адносінах да беларусаў". Звяртае ён таксама ўвагу чытача на тыя фрагменты справаздачы, якія адносяцца да рэлігійных праблемаў. Паводле яго „мала хто ведае пра барацьбу, якая вялася паміж прыхільнікамі юрысдыкцыі Мінскага епіскапа на Беласточчыне, а дзяржаўным апаратам, які не прызнаваў гэтай рэлігійнай улады". Дабаўляе ён таксама, што з увагі на тое, што кніжка а. Рыгора паказвае перш за ўсё пункт гледжання адміністрацыі, на прадстаўленыя дакументы „трэба глядзець як на адну толькі з крыніц да вывучэння нашай сучаснай гісторыі".

Славамір Іванюк ацэньвае, што „opublikowane materiały archiwalne stanowią jedynie wierzchołek góry lodowej, bo tak można w przenośni określić wciąż niewykorzystywane i dlatego po części niezbadane źródła do dziejów Białorusinów i Cerkwi prawosławnej na Białostocczyźnie, które przechowywane są w Archiwum Państwowym w Białymstoku".

Пасля ўступных слоў і ўводзін у кніжцы падаецца спісак скарачэнняў, выступаючых у асноўным тэксце. Кніжку жа зачыняюць два паказальнікі — імянны і геаграфічны, а таксама дакладны спіс змесу. На ўнутраных бачынах вокладак аўтар, ужо традыцыйна, змяшчае ксеракопіі арыгінальных дакументаў. На апошняй жа бачынцы вокладак прыводзіцца тэкст палемікі пяра ніжэйпадпісанага з рэцэнзіяй на адну з раней выдадзеных а. Рыгорам кніжак, якая паявілася ў штоквартальніку „Białostocczyzna".

Новая кніжка нястомнага даследчыка праваслаўя на Беласточчыне з'яўляецца яшчэ адным вельмі каштоўным падарункам для ўсіх нас, якім дарагая наша нацыя, яе традыцыі, гісторыя і веравызнанне.

**Пётр Байко**

---

**) ks. Grzegorz Sosna, Sprawy narodowościowe i wyznaniowe na Białostocczyźnie (1944—1948) w ocenie władz Rzeczypospolitej Polskiej, Wybór dokumentów, Sytuacyjne sprawozdania Wojewody Białostockiego w Białymstoku oraz Powiatowych Starostów Białostockiego, Bielskopodlaskiego i Sokólskiego w latach 1944—1948, Ryboły 1996, Druk i oprawa: Orthdruk, Białystok, str. 95.*

# Нядзеля аб Закхеі

*(Лукі, 19:1—10)*

Першая падрыхтоўчая нядзеля перад Вялікім Постам называецца *нядзеляй аб Закхеі.* У гэты дзень чытаецца ўрывак з 19-га раздзела Евангелля паводле Лукі. Гаворыцца ў ім пра раскаянне мытніка Закхея ў горадзе Ерыхоне. Сваё багацце ён нажыў абдзіраючы і ашукоўваючы людзей. Жывадзёрствы мытнікаў былі выявай агульнапрынятага звычаю, хаця асяроддзе пагарджала і ненавідзела іх. Закхей доўга ўсведамляў сваю нягоднасць і разважаў, як выправіць прычыненыя людзям крыўды. Даведаўшыся, што непадалёку праходзіць Настаўнік з Назарэта, з прычыны свайго нізкага росту ён залез на дрэва, каб прынамсі здалёк паглядзець на Хрыста. Калі сустрэліся іхнія позіркі, ён прамовіў да мытніка: „Закхей, зыдзі хутчэй, бо сёння Мне трэба быць у цябе ў доме". Шмат хто з прысутных абурыўся афіцыйным наведаннем дома яўнага грэшніка. Закхей жа быў ашаломлены любоўю і ласкавасцю Хрыста да сябе. Ён з радасцю прыняў Ісуса і публічна выявіў раскаянне, якое даспявала ў ім здаўна. „Госпадзе, — заявіў ён, — палову маёмасці сваёй аддам убогім і каго калі чым скрыўдзіў, аддам учацвёра болей". У адказ ён пачуў словы: „Цяпер прыйшло збаўленне дому гэтаму, бо і ён сын Аўраама".

Ніводнае раскаянне не бывае сапраўдным, калі за словамі не ідуць дзеянні. „Хай верне нягоднік нягодны залог і адплаціць за здзёртае" (Іезек., 33:15—16), „не ашукоўвайце бліжніх сваіх" (Левіт, 25) — заклікалася ў Свяшчэнным Пісанні і пра гэта ведаў нават мытнік. Закхей не спыніўся на пустой фразе банальнага апраўдання, якое нічога не каштуе. У адказ на спагадлівае стаўленне да яго, ён з пачуццём вінаватасці і даўгу перад людзьмі звярнуўся да бедных і пакрыўджаных ім.

Людзі пераважна спяшаюцца з асуджэннем паводзін і поглядаў іншых, не спрабуючы нават зразумець матывы іншасці. Евангельскі аповед пра мытніка паказвае, наколькі выхаваўчым і падбадзёрваючым можа быць прабачэнне і спагада. Між іншым гэта бачна ў адносінах паміж начальнікамі і падначаленымі. „Ніколі не радуй так, каб затым магла прыйсці журба; і ніколі не засмучай так, каб са смутку не атрымалася дабро" — пісаў філосаф Лафатар. „Лепш, каб цябе падначаленыя любілі, чымсьці баяліся, бо ад боязі родзіцца хлусня і крывадушнасць, ад любові жа праўда і руплівасць" — пісаў свяціцель Дзмітры Растоўскі. Выдатны місіянер Фабэр гаварыў, што дабрыня спрычыняе больш павярненняў да веры, чымсьці дбайнасць, красамоўства і веды. „Жорстскаць і злоснасць нікога не направілі і не прыцягнулі" — падкрэсліваў ён. Добрыя педагогі пераважна ведаюць, што „холад марозіць, насмешка раніць, гнеў выклікае бунт, а недавер'е замыкае сэрца".

Паводле Евангелля, кожны грэшнік бы дзіцё, пра якое невядома якім і кім будзе ў дарослым жыцці. Ён таксама, бы бясплодная смакоўніца, якую належала б зрубаць, але гаспадар усё-такі вырашыць абкласці яе ўгнаеннем, задбаць пра яе і пачакаць: а можа ўсё-такі прынясе плён. У евангельскім апавяданні пра грэшніцу, якая ў доме фарысея памазала алеем ногі Ісусу, бачны ўвесь сэнс прабачэння. Асяроддзе, закон, звычаі — усё было супраць яе, але акрамя асуджэння ніхто не ведаў колькі патэнцыяльнага дабра дрэмле ў ейнай душы. Ёй трэба было даць магчымасць і час паправіцца, не адкідаць яе, каб, зняверанaя ў магчымасць змены свайго лёсу, не вярнулася да папярэдняга спосабу жыцця. „Даруюцца многія грахі яе за тое, што яна многа ўзлюбіла; а каму мала даруецца, той мала любіць" (Лукі, 7:47) — сказаў Хрыстос грэшніцы.

Можна з упэўненасцю сказаць, што пасля гэтага ў няшчаснай жанчыны ўзнікла пачуццё даўгу, закранула ейную амбіцыю і падахвоціла любой цаной падцягнуцца і апраўдаць давер да сябе. Такі ж пераварот у душы азлобленага ў свядомасці ўласнай віны мытніка Закхея выклікала любоў і спагадлівасць да яго з боку Хрыста. Дабро спарадзіла дабро. Гэта заканамернасць, якую варта ўсвядоміць усім нам.

**а. Канстанцін Бандарук**

## БІБЛІЯГРАФІЧНЫ КУТОЧАК

ABRAMOWICZ Zofia: Nazewnictwo osobowe mieszkańców Wołpy. *Białostocki Przegląd Kresowy* 1994, t. 2, s. 7-25.

ANKUDOWICZ-BIEŃKOWSKA Maria: Sielsko-rustykalny mit słowiański a ukraińska, białoruska i litewska "pieśń gminna": na podstawie polskich czasopism literackich ziem litewsko-ruskich lat międzypowstaniowych XIX wieku. *Slavia Orientalis* 1994, nr 4, s. 491-501. Rez.

BARADULIN Rygor: O jedno proszę, maro senna (w). Tł. Tadeusz Chróścielewski. *Borussia* 1995, nr 10, s. 256.

BICZEL-ZAGNIETAWA Danuta: W Grodnie (w). Tł. Tadeusz Chróścielewski. *Borussia* 1995, nr 10, s. 258.

CHOŁODOWSKI Maciej: Tylko bez emocji. Białoruskie Towarzystwo na drodze do NATO. *Gazeta w Białymstoku*, 8.02.1995 r., nr 33(804), s. 1.

DZWONKOWSKI Roman: Kościół katolicki na Białorusi i Ukrainie w nowej roli. *Ład* 1995, nr 28, dod. s. IV.

Godun Helena: Tradycja krzyży wotywnych na Św. Górze Grabarce w świetle historii prawosławia na terenie północnego Podlasia. Praca magisterska. Instytut Wychowania Artystycznego, Lublin 1995, ss. 84, mnps.

GOSZCZYŃSKI Dariusz: Kapitan "Bury". (Akcje bojowe III Wileńskiej Brygady Narodowego Zjednoczenia Wojskowego na Białostocczyźnie). *Tygodnik Solidarność* 1995, nr 32, s. 7.

JANOWICZ Sokrat: Samobójstwo Białorusi. Rozm. przepr. Zbigniew Nikitorowicz. *Kurier Podlaski*, 22.05.1995 r., nr 113 (3041), s. 1, 2.

JAROSZEWICZ-PIERESŁAWCEW Zoja: Mniejszość białoruska w Polsce. Wybrane problemy [w:] W kręgu kultury białoruskiej. Studia i Materiały Nr 56. WSP w Olsztynie. Olsztyn 1994, s. 133-151, mapy, tab.

(jen): Zaproszeni pod presją? Obrady komisji polsko-białoruskiej. *Kurier Poranny*, 27.10.1994 r., nr 230 (1243), s. 3.

(jona): Protest mniejszości. Trwają obrady dwustronnej komisji (konsultacyjnej ds. szkół dla mniejszości narodowych w Polsce i na Białorusi). Gazeta w *Białymstoku*, 26.10.1994 r., nr 250 (717), s. 1.

JURKIEWICZ Jan: Nasze widzenie Białorusinów w XX wieku (do 1939 r.). *Dzieje Najnowsze* 1995, nr 2, s. 59-79. Sum.

KABZIŃSKA-STAWARZ Iwona: "I po co ta granica?" (Pogranicze litewsko-białoruskie). *Etnografia Polska* 1994, z. 1/2, s. 79-105. Sum.

KIKLEVIČ Aleksandr K.: Kantrastyŭny analiz hramatyčnych sistem pol'skaj i belaruskaj moŭ (dzejasloŭ). *Białostocki Przegląd Kresowy* 1994, t. 2, s. 105-115.

KIREENKA Kastus': Poleska polka (w). Tł. Tadeusz Chróścielewski. *Borussia* 1995, nr 10, s. 254-255.

ŁESIÓW Michał: Gwary ukraińskie między Bugiem i Narwią. *Białostocki Przegląd Kresowy* 1994, t. 2, s. 117-137.

Łabuszewski T., Krajewski K.: Od "Łupaszki" do "Młota" 1944-1949. Materiały źródłowe do dziejów V i VI Brygady Wileńskiej. Oficyna Wydawnicza Volumen, Warszawa 1994, ss. 322.

(mach): Władze chcą rozmawiać. Zarząd miasta o budynku BTSK. *Gazeta w Białymstoku,* 31.01.1995 r., nr 26 (797), s. 2.

MOŻEJKO Eugeniusz: Białoruś tęskni... *Życie Gospodarcze* 1995, nr 33, s. 32-33.

RĘBACZ Marcin: Prasowe pomosty (litewska "Aušra" i białoruskie: "Czasopis", "Niva" i "Zeszyty Białoruskie" wydawane w Białymstoku). *Gazeta Współczesna,* 24.11.1995 r., nr 228 (13 380), s. 5, il.

SKARADZIŃSKI Bohdan: Nad Świsłoczą i Berezyną. (Stosunki polsko-litewsko-białoruskie w 1919 r.). *Społeczeństwo Otwarte* 1994, nr 12, s. 23-27.

STECKO Pavel: Naminacyi z farmantam -iska (-yska) -isko (ysko) u belaruskaj i pol'skaj movach. *Białostocki Przegląd Kresowy* 1994, t. 2, s. 175-180.

TAŃK Maksim: Kosmogonia [w:] *Borussia* 1995, nr 10, s. 257.

**Р. С.**

## НОВЫЯ ВЕРШЫ

*Івона Марціновіч*

### Маё існаванне

хачу замкнуць на ключ
усе свае засмучэнні
не разумею яшчэ кахання
бачыш
вецер ублытаўся ў мае валасы
хачу размаўляць але словы з ветрам
улятаюць
не ўмею сказаць усяго
хаця вельмі хачу гэтага
аднак
не адыходзь
прашу
застанься
думкі цягнуцца кучаравымі аблокамі
кожная хоча першай быць
можа
з гэтым ветрам прыйдзе мой час
ціха застукаю ў твае дзверы
...............і аддам букет мар —
маё
ІСНАВАННЕ

* * *

ці ёсць штосьці глыбейшае чым мора
апроч
мора
няма
большай
глыбіні
ці ёсць штосьці вышэйшае чым неба
апроч
неба
няма
іншай
вышыні
чаму я не сплю
задаю гэтыя дзіўныя пытанні
дзе слоў вадаспады плывучыя нікуды
выкралі маю душу
хто мне сон адбірае
на небе аніводнай зоркі
такое яно пустое
без дна
такое цёмнае
як ноч
такое нямое
як я
аб чым я думаю?
....... аддайце мне сон...

*Сымон Шаўцоў*

### Паглядзі на суседзяў

Паглядзі, што суседзі-балты
асабняком жывуць у дабрабыце.
Яны здаўна так жылі,
непаслухмяныя, упартыя былі,
камуны не любілі.
А ты, Беларусь, жыла ў падсуседзях,
хоць мела сваю хату,
а гаспадарыць здала „брату".
Як жыцьму я без боса-брата?
Ці стану я багатай?
Адчынім зноў у камуну дзверы.
Мы хочам жыць як бэсэсэрыя
ў складзе эсэсэрый...
Нашто нам стары дзедаў сцяг,
даўняя дзедава „Пагоня"?
Мы прывыклі жыць у прыгоне.

* * *

Калісь, як быў я малады
у час падзеяў, пры палітычнай
завірусе,
нацдэмаў гналі з Беларусі.
Я думаў, пайду ў белы свет,
там у чужым народзе растваруся,
без Беларусі абыдуся.
Блукаў па свеце то там,
то тут,
ды не забыў свой родны кут.
Чым болей думаў пра радзіму,
тым больш было ў мяне пакут.
Прайшоў чатыры кантыненты,
па акіянах я ваяжыў,
у жыцці не быў уладкаваны.
Цяпер ізноў прыйшоў,
стаю ля мяжы сваёй радзімы-матулі.
Хто прыгорне, пашкадуе,
хто да сэрца мяне прытуліць?

### Я не ўцякач

Я не ўцякач, а выгнаннік
з роднае хаты,
роднай зямлі.
Сваім жа беларусам —
адшчапенцам братам.
Не мардаваў, нікога не забіў,
спакойна працаваў і жыў.
З вайны вярнуўся, з фашызмам
ваяваў.
А мне сказалі: „Ты, як воўк,
па-воўчы выў,
ідзі ты прэч з свае зямлі".
Несправядлівасць „брата" —
нягледзячы на апраўданне Пілата —
мне крычыць: „Распні яго, распні!
Ён здраднік наш, бо не пайшоў у лес
змагацца за камуну,
а жыць астаўся пры фашыстах!
Ён небяспечны і нячысты,
нацдэм — вораг народу!
Не нашага савецкага ён роду!"
А я хацеў свайму народу дабра
і сілы, як мог, то прыкладаў.
Хто краў, хто вінаваты —
хай Бог нас рассудзіць і пакарае.
Ён гэта добра знае.

* * *

Яны — ахоўцы камунізму, апалагеты,
кляймяць, ругаюць, што я не гэткі,
як яны.
Пішуць на мяне даносы
не той, то гэты
сваім босам.
А тыя ведаюць сваю справу —
ладзяць нам аблаву.
І судзяць і страляюць,
„шчасліўцаў" выганяюць
далёка ад сваёй зямлі,
пазбавіўшы волі і сям'і,
у халодную Сібір.
Правядзем гады, як выжывем,
то „срок" паўтораць.
Знаюць, што твораць.
Табе кажуць:
„Ізноў ты хваліш лад архаічны,
не савецкі, не камуністычны.
Ты, сын Хімеры, разносіш
нацдэмаўскую халеру!.."

* * *

Цюмень, Цюмень, гарадок Сібіры
халодны і чысты,
мяне рыхтуеш на фронт фашысцкі.
Не давалі зброі „палітычнаму
нацдэму".
А цяпер далі трымаць аберуч кулямёт,
страляць у фашысцкага немца.
Толькі, як прыперла Маскве,
як страціла многа зямель эсэсэрыі,
то і мне зброю даверылі.
„Трэба гнаць у бойку з фашыстам
грамадзян сваіх палітычна
нячыстых".
Я цяпер да вайны прыгодзен,
не быў я ворагам у народзе.
Што загадваў вусаты,
выконваў, як і ўсе,
не быў у тым я вінаваты.
Мой край, мая сям'я, жонка і двое
дзетак
у друзах разбітага Менска.
А я ад іх далёка ў Цюмені.
Не далі бараніць ад фашыстаў,
лічылі ворагам, нацдэмам
палітычна нячыстым.
А я ж плакаў, прасіўся на фронт...
Загад быў дадзен:
Кінуць усіх і ўсё на вайну
з фашызмам,
каб не згубіць Маскву ды эсэсэрыю
дачыста.
Немец ірваўся на Маскву,
аблажаны Ленінград,
баі ішлі за Сталінград.
Фашысты на Усход фарсіравалі, перлі.
І тады, як Маскве прыперла, то
ў войска бралі ўсіх палітычна
нячыстых,
раней з войска адчысленых:
судзімых, кулакоў, ворагаў народа,
палітычных нацдэмаў бараніць
магутны СССР.
І я — Сымон — прыгодзен стаў
да вайны, *іскупіць сваёй крывёй* віну,
хоць быў ні ў чым не вінаваты.
Патрэбен стаў ратаваць
майго старэйшага брата.

# „Руская баба”

— Чаго ты аж так пераймаешся адзінкавай справай пакрыўджанага чалавека! Сабе сэрца вярэдзіш, час траціш, а мала ў чым дапаможаш! Не накорміш жа за свае сціплыя заробкі бедных і галодных, бяздомным не дасі прытулку! — злавалася на мяне мая мама, калі каторы ўжо раз мае першыя словы пасля вяртання з працы пачула пра нечыя беды. — А ведаеш, колькі падобных спраў увогуле не выплывае на верх мутнай вады, колькі ў свеце, што там у свеце, у нашым Беластоку, ціхіх пакутнікаў, пра якіх боль не ведае ніхто?!

... Алена М. зайшла ў нашу рэдакцыю, калі мы мелі сваё памяшканні на першым паверсе „Дому друку” па вул. Сураскай 1. Туды ўсім было па дарозе, і траплялія наведвальнікі, якія нечага шукалі, зусім разгубленыя, бывала, як не з гэтага свету або такія, што, злавіўшы вухам стук пішучай машынкі, неслі сваё „паданне”, каб аддрукаваць, каб было „граматна” і не сорамна несці ва ўстанову. Што ж было рабіць! Не былі ж мы канторай пісання заяў! Але чалавек браўся за паперу, укручваў яе ў валік машынкі і стукаў. Шкадуючы замэнчанага пакутніка бюракратычнай эпохі... Алена М. была адным з такіх пераляканых і разгубленых наведвальнікаў, хаця на першы погляд здавалася быць упэўненай дамай. Высокая, стройная прыгажуня пад трыццаць, з ярка пафарбаванымі валасамі, апранутая ў шыкоўны, але крыху паношаны касцюм „Шанель”, але паперы мела запакаваныя ў шэрую папку і рэкламны кулёк, і гэта зусім не падыходзіла ні да фірмовага адзення, ні італьянскіх пантофляў на корачку.

Я спачатку мала зразумела з пісульки, якую паклала на стол Алена М. Прашэнне было па-польску, без арфаграфічных памылак, толькі ніяк не ўмяшчалася ў афіцыйны стыль. Проста — жалі пакрыўджанага чалавека, якому не вельмі добра даецца польская мова, каб вылушчыць справу. Намнога лепш Алена М. па-польску размаўляла. Прыгожа, без акцэнту, з багатым слоўнікам.

Польскую мову Алена Д. пачала вывучаць яшчэ ў Кіеве, пакуль пазнаёмілася з Янушам М. Гэтаму маладому беластачаніну, толькі аперыўшамуся бізнесмену, спадабалася „міс”, якую звочыў на дыскатэцы ў цэнтры. Дзевак была процьма, не было адбою асабліва ад „інтэр-дзяўчат”. Януш М. спачатку думаў, што і Алена Д. — з іхняй кагорты, што можна загуляць з ёю за грошы. І яна валодала некалькімі мовамі, і выглядала шыкоўна, і яна была студэнткай, як вялікая частка прадажных паненак. Выйшлі разам на вуліцу. Але ў нумар гатэля з ім не пайшла. Развіталіся пад яе домам. У „хрушчоўцы” на трэцім паверсе Алена жыла з бацькам-настаўнікам, маці-страхоўшчыцай і братам — вучнем сярэдняй школы.

Дамовіліся на сустрэчу. Трэці раз сустрэліся ўжо за сямейным сталом. Бацькі з неспакоем пазіралі на чужаземца, які засыпаў іх падарункамі, абцалоўваў Алену і Ніну Сямёнаўну па руках, ездзіў на „Мерседэсе” нават па кветкі. Усё паказвала, што Януш М. закахаўся. Прасіў у бацькоў руку дачкі, упаўшы на калені.

Купіў Алене ў Кіеве кватэру. Вядома, і сабе таксама — нашто бадзяцца па гасцініцах (там толькі можна дамаўляцца ў справах бізнесу).

„Інтарэс” ішоў выдатна, пакуль было выгадна з Украіны вывозіць тавар і выкарыстоўваць розныя „шчыліны” ў законах. Урэшце Януш М. прадаў фірму і кватэру, забраў маладую жонку (не закончыла студыяў — з V курса) з маленькім сынам ды перавёз свой набытак у Беласток.

Адна была задача ў Алены: чакаць мужа дома. Паколькі зашмат мужчынскіх позіркаў накіроўвалася на такую прыгажуню, муж перастаў вадзіць яе на танцы і ў госці да сяброў. Для бацькоў Януша Алена асталася „руско бабо”, з якой іх сын жыў без Божага блаславенства; хоць разведзены з першай жонкай Агнешкай, мелі далей яе за сваю касцельную нявестку. Дома спачатку Алена трымала „гаспадыньку”, якая дапамагала ёй няньчыць малога і весці гаспадарку, але адправіла яе — сама ўмела добра гатаваць, малы пайшоў у садок, і каб не ашалець з нуды, Алена рашыла чымсьці займацца. Да бацькоў Алена ўсё збіралася ехаць, але касьці не атрымлівалася сабраццa, і пасылала толькі лісты поўныя каляровых як сон здымкаў. Выпрасіла ўрэшце мужа, каб пусціў яе да бацькоў, і праз тыдзень вярнулася ў слязах: не мела там ужо месца. Брат паказаў Алене дзверы: „Не было цябе тут тады, калі мы сцены грызлі, не трэба і цяпер, калі жывем як людзі. Пра твае беды і слухаць не хочам!”

Якія „беды”? Якія праблемы? Мела ж усё — багатага мужа, удалага сына, вялікі дом, машыну, найлепшае адзенне, падарожжы, пітво... Чаго больш? Ну і што, што муж у гэтым агромністым, цудоўна абсталяваным доме ўсё радзей бывае, што няма да каго ёй словам азвацца? Няхай уключыць „відзік”, ідзе ў краму купіць новы касцюм ці аздобы. Няхай у аранжарэі кветкі новыя садзіць... Мала ёй цікавага занятку?..

І ўрэшце ляснула! Прыйшло „запрашэнне” на развод. У судзе Януш М. закідаў жонцы, што яму здраджвае, запрашае дадому мужчын, дае дрэнны прыклад сыну. Пяцігадовы Фэлюсь пацвердзіў, што ў госці да мамы прыходзяць „паны”, разам кураць цыгарэты і п’юць віно. Не пыталі Фэлюся, ці гэта таксама ёсць знаёмыя і бацькі. Алена глядзела з жахам у нявінныя вочы малога. Праўда, забіраў яго часта бацька ў падарожжы, у жніўні былі разам у Рыме з нейкай „цёцяй Басяй”... Ага, згаданую „цёцю Басю” ўбачыла Алена ў той жа ракавы дзень: зараз з судовай залы пайшоў Януш М. да машыны, у якой побач шафёра сядзела маладзенькая красуня ў скуранoй спаднічцы ў далонь.

Дома Януш М. параіў сваёй яшчэ жонцы (для „дабра сям’і” суд пакуль справу не вырашыў):

— Слухай, „руска бабо”, едзь ты ў свой Кіеў. Дам табе аж дзесяць тысяч зялёных, ано знікні назаўсёды з майго жыцця. Там хоць на вуліцу ідзі, маеш магчымасці. На малога не маеш ніякіх правоў, нават не пішы, не звані. Пакуй манаткі і каб я твайго духу не чуў!

— Я табе сына не пакіну!

Алена ўпала ў шок. Зачынілася ў ваннай, з’ела тры пачкі снатворнага, запіла каньяком. У стане моцнага атручання забралі яе на неўралагічнае аддзяленне псіхбальніцы. Ляжала дзесяць дзён на інтэнсіўнай тэрапіі і два месяцы ў стане дэпрэсіі. У судзе ўжо ляжала паведамленне Януша М., што жонка страціла розум, ляжыць у псіхушцы, яе паводзіны небяспечныя для акружэння, а асабліва для маларлетняга сына, і неабходна яе прызнаць недзеяздольнай. Адабралі ўсе правы Алене надзіў хутка, заадно і развялі, пакідаючы ўсё ж мужу апеку над былой жонкай.

— Грошы маюць уладу большую, чым веды, розум, сэрца, — расплакалася Алена М., седзячы ў маім рэдакцыйным пакоі на старэнькім, пацертым крэсле. Замежная туш для веек не распусцілася ад слёз — фірма ёсць фірма. — Нават абараняцца я не мела як. У Януша быў адвакат, чыста папугай, не дапусцілі мяне нават да слова. Па-польску мне заўсёды не найлягчэй гаварылася, а тут мне аж дух займала. Рашэнне суда ўвайшло ў законную сілу, і цяпер я не магу выступаць у судзе як законная асоба. Усё ж, пішу... Забраў усе мае дакументы, пашпарт — нават уцячы на радзіму не магу. Цяпер кажа, і залатоўкі мне не дасць, калі не захоча. „Павесся, — кажа, — менш клопату будзе!” Дома ў Кіеве месца для мяне няма, тут месца няма... У нашай хаце жыве „цёця Бася”. Фэлюсь ад яе проста *балдзее*. На мяне глядзяць як на паветра. Азвуся, бягуць рукі вязаць, звоняць у Харошчу, каб мяне забралі; вядома, я ўжо здаровая быццам, але такое жыццё давядзе мяне да таго, што... Сапраўды, колькі чалавеку трэба — пару сажняў зямлі, толькі там спакойна... На адвакатаў грошай не маю. Толькі зайду ў суд, сакратаркі паміж сабой перамаўляюцца: „Znowu przyszła ta ruska baba”. Можа, сапраўды, ёсць адзін лёгкі выхад — паляцець у нябыт?..

**Міра Лукша**

## POMÓŻMY OLI!

Zarząd Społeczny Komitetu Pomocy Oli zwraca się z gorącą prośbą o wsparcie finansowe prowadzonej przez środowisko oświatowe akcji publicznej zbiórki środków na leczenie Aleksandry Kocjan — 17-letniej uczennicy Liceum Ogólnokształcącego im. Br. Taraszkiewicza w Bielsku Podlaskim.

Ola przez dla lata była pacjentką Dziecięcej Kliniki Hematologii w Warszawie. Leczenie nie przyniosło spodziewanych rezultatów, dlatego zaistniała konieczność przeprowadzenia operacji przeszczepu szpiku kostnego. Zabieg zostanie wykonany w Klinice Hematologii Śląskiej Akademii Medycznej w Katowicach. Minimalny wkład matki w leczenie polega na opłaceniu leków potrzebnych przy transplantacji o wartości 700 milionów starych złotych. Skromna pensja nauczycielska Pani Niny Kocjan — matki Oli — jest bardzo istotną barierą w walce o życie córki. Dlatego też zaistniała konieczność zbiorowego wysiłku na rzecz poparcia starań matki. Sądzimy, że w tym zbiorowym odruchu solidarnego zmagania się z nieszczęściem nie zabraknie wkładu nas wszystkich.

Wpłaty na rzecz Komitetu prosimy przekazywać na konto:

PBK SA Warszawa
O/Bielsk Podlaski
370419-9869-132

z dopiskiem:
"Społeczny Komitet Pomocy OLI"

## Радзіма — Родзіна

### Частка XL

Фёдар Баршчэўскі, якога я ўжо цытаваў у папярэднім адрэзку, у далейшых партыях сваіх выказванняў трымаўся раз абранай лініі — даказваў, што ідэя незалежнасці не мае шанцаў у Беларусі.

„Калі ты так моцно трымаешсе гэтае ідзеі незалежнасці, то я табе перадам тое, што я чуў тут много разоў ад тых гандляроў, што сюды пачці што кажды дзень прыязджают на спекуляцыю. То значыцца, адзін з іх мне сказаў так, калі я яго спытаў як ім жылося пры саветах, а як жывецца цяпер, калі пачало ўсё к чортавай мацеры развалівацца: „Знаешь, папаша, раньше мы жили бедно но гордо. А теперь то мы живём и бедно, и подло. Видишь, папаша, чем я занимаюсь — спекуляцией, а ведь я высококвалифицированный агроном. Едут все в Польшу, еду и я. Ты знаешь, папаша, что делается в Белоруссии? Сплошной бардак! Пенсионеры, которые работали тяжело всю жизнь, дохнут от голода, а двадцатилетние парни и девки ездят на мерседесах. Разве так должна выглядеть демократия и справедливость? Я за свои двести рублей старой зарплаты мог купить сорок килограммов самой первокачественной колбасы, а сегодня за свою зарплату не куплю даже трёх килограммов такой колбасы. Так что я буду больше любить — советскую или независимую Белоруссию? Понятно, что советскую. Учтите, папаша, что так думает девяносто пять процентов белорусского общества. Посмотри, папаша, на наших людей. Едут в Польшу и кто как может так делает деньги. Одни торгуют, другие воруют, третьи — работают, а девки поголовно жопой зарабатывают. Вот видишь, папаша, чем мы стали. Мы мусор Европы, а ведь были гордым советским народом. Людям жрать хочется, а независимостью брюха не наполнишь.”

Ты гэто, што я табе сказаў, папраў, каб гэто было напраўду па-руску, бо я ж рускі язык то ні вельмі добрэ знаю. Але калі б ты хацеў усё гэто надрукаваць у газэці, то ні змяняй смыслу сказаного, бо я то добрэ запомніў тое, што мне гэты савет сказаў. Але ты ні думай, што я табе ўсё тут сказаў тое, што сотні разоў чуў ад беларусаў з Беларусі. Ты ж знаеш, что я на марытуры, час маю, то я да іх хаджу кажды дзень. Чаго толькі, мой пане, яны ні расказуют?! І ўсе паалоўно наракают, плачут і хвалят тое, што было і ганят тое, што ест цяпер. Ты знаеш, што я ні спаткаў дагэтуль ані аднаго савета, ані старого, ані маладого, каторы мне сказаў бы, што ён процію таго, што было калісь і за тое, што ест цяпер. Ну, оўшум, некаторы то гаворат, што калісь то вогуле ні можно было выехаці за граніцу, а цяпер то свабодно можно ехаці. Ну, то якраз гэту штуку хвалят, але больш то нічого ні хвалят з таго, што настало тады, як пачаў Савецкі Саюз развалівацца. От таму я цябе і ні панімаю, што ты так моцно нажымаеш на гэту незалежнасць. А хто ж табе будзе яе паддзержываць, калі па цэлым краю пашлі камбінацыя, зладзейство, ашуканство і блядзтво. Я то нават ні раз гэтым саветам сам гаварыў, што на армію много ішло грошэй, на шпіянаж, і на парцію, і што замест гэтаго павінны былі саветы больш грошэй даваці людзям. А ты знаеш, што яны мне адказавают? А яны гаворат мне: „Хватало, папаша, и на армию, и на шпионаж, и на партию, и хватало для народа. А вот теперь нету ни на армию, ни на шпионаж, ни для партии. И прежде всего нету их для народа”. Ну і што ты, будучы на маім месцы, сказаў бы ім, мой пане? Я то, прызнацца, ні панімаю аднаго, што ты раз за разом ездзіш у тую Беларусь, а ўсяго гэтаго ні бачыш. Каб ты бачыў, што там напраўду робіцца, і што думают тые нашы беларусы, то ты вогуле ні гаварыў бы пра ніяку нізалежнасць. Ну я то цябе крыху панімаю. Яно вядомо, што было б як бы добрэ, каб кажды народ жыў у поўной свабодзі і меў тую нізалежнасць, але сам бачыш, што ў Беларусі з гэтым дзелом ні палучаецца. А яшчэ варто табе знаці аб тым, што савецка ідэялогія то яна вельмі моцна штука. Ты знаеш, што я перад вайною то быў узяты ў польску армію. Ну то бывало збярэ нас ахвіцэр і пачынае лаяць і даваць саветам. Гаворыт, што там церор, што людзей гноят у цюрмах, што сілаю заганяют у калхозы, што людзі галадают. А я сабе сіджу і думаю, што ты сукін сын брэшэш, гэто ж усё ніпраўда. Там людзі жывут шчасліво і багато. А то ж аказалосё пасля, што гэты ахвіцэры мелі рацыю і гаварылі праўду. Але ніхто з беларусоў, а нас у арміі то ў каждуй році было так прыблізіцельно каля аднае чацвертае беларусоў, і ніхто з нас ні верыў, што ў саветах жывецца цяжко. От бачыш, якая сіла ў гэтуй савецкай прапагандзі... І так яно засталосе да сегодня. Тым больш, што ў астатніх летах то яны жылі ўжэ нікепско і ніхто іх у цюрмы без віны ні садзіў. От таму, мой пане, людзі хочут савецкае ўласці, а ні гэтае твае нізалежнасці”.

**Алесь Барскі**

## Позірк у мінулае

**28 студзеня**

814 г. — памёр Карл I Вялікі, кароль франкаў.
1077 г. — каянне нямецкага караля Генрыха IV Барбаросы папе Грыгорыю VII пад Каносай.
1897 г. — Рудальф Дызель пусціў у ход першы дызельны рухавік.
1986 г. — выбух касмічнага карабля „Чэленджэр" 73 секунды пасля старту на вышыні 17 км.

**29 студзеня**

1492 г. — войскі іспанскага караля Фердынанда II здабылі Гранаду, завяршаючы Рэканкісту.
1886 г. — Карл Бенц атрымоўвае першы патэнт на бензінны аўтамабіль.

**30 студзеня**

1884 г. — нар. Антон Луцкевіч, палітык і публіцыст, адзін з ініцыятараў абвяшчэння незалежнасці БНР.
1899 г. — нар. пісьменнік Міхась Лынькоў.
1921 г. — нар. пісьменнік Іван Шамякін.
1933 г. — нямецкі прэзідэнт Пауль Гіндэнбург прызначае Адольфа Гітлера на пост канцлера.
1951 г. — памёр Фердынанд Поршэ, нямецкі аўтаканструктар.
1958 г. — памёр Эрнст Генкель, нямецкі авіяканструктар.

**31 студзеня**

1938 г. — нар. Беатрыкс Армгард, галандская каралева.
1951 г. — нар. Філ Колінз, англійскі спявак.

**1 лютага**

1733 г. — памёр Аўгуст II Моцны, польскі кароль.
1792 г. — выйшаў першы план горада; у Лондане.
1887 г. — каля Лос-Анжэлеса заснавана кінастудыя „Холівуд".
1931 г. — нар. Барыс Ельцын, расейскі палітык.
1972 г. — Фірма *Юліт Пакар* збудавала першы навуковы калькулятар.

**2 лютага**

1848 г. — у выніку падпісанага мірнага дагавора Мексіка страціла амаль палову свае тэрыторыі: землі распаложаныя на поўнач ад ракі Рыо-Грандэ адышлі да ЗША.
1913 г. — У Нью-Йорку адкрыта *Central Station*, найбольшы ў свеце вакзал з 42 перонамі на плошчы 32 га.
1935 г. — у судзе ў штаце Вісконсін упершыню прыменена дэтэктар хлусні.
1943 г. — капітуляцыя рэштак нямецкіх войск пад Сталінградам.

**3 лютага**

1859 г. — нарадзіўся, а ў 1935 г. пад той самай датай памёр Хуга Юнкерс, нямецкі авіяканструктар.
1993 г. — беларускі парламент адмяніў забарону дзейнасці кампартыі.

**(Ш)**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Астроне! У апошні час сняцца мне надта кепскія сны. Думаю, што чакае мяне штосьці страшнае, і вельмі перажываю.

А было апошнім разам так. Быццам пайшлі мы з маёю дачкою ў горад за пакупкамі. Цёмна. Вечар. Горад мне незнаёмы. Мы ходзім па нейкім вялізным, суперсучасным будынку з крамамі, як у нейкай Амерыцы.

Неспадзявана паяўляецца чалавек з вялікім кухонным нажом у руках і пачынае ганяцца за мною. Я стараюся знікнуць з яго вачэй, пераходжу ад аднаго прылаўка да другога, а ён — усюды за мной. Дачкі ўжо побач са мною няма. Я вельмі баюся.

І вось я ўжо не ў тым гандлёвым доме, а ў бальніцы. Думала, што тут ужо знайду супакой. Але дзе там! Ізноў бачу чалавека з нажом у руках, які праследуе мяне. Тады я ўлезла пад ложак, схавалася ад яго, думала, што ўжо мяне не знойдзе. А ён выцягнуў мяне з-пад ложка і зноў пачаў ганяцца за мною. Не ведаю, што рабіць. Раптам паяўляецца знаёмы паліцыянт. Думаю, што ён выратуе мяне ад гэтага чалавека, бо заўсёды быў у адносінах да мяне добразычлівы. З надзеяй на вызваленне я прачнулася. Што будзе?

Вера

Вера! Сон сапраўды цяжкі. Чалавек з нажом у руках, які ганяўся за табою, прадвяшчае сваркі і непрыемнасці. Бальніца, у якой ты апынулася, магла б абазначаць, што ў тваім жыцці запануе спакой і шчасце, калі б... не гэты чалавек з нажом ізноў. Той паліцыянт гэта невялікая радасць, паліцыя таксама прадвяшчае крыўды, непрыемнасці. Узяўшы аднак пад увагу, што ты ад гэтага чалавека бачыла толькі дабро, можна сапраўды меркаваць, што дапаможа табе пазбыцца клопатаў.

Астрон

## Што край, то і абычай, што горад, то і нораў

Яшчэ многія з нас вераць у забабоны... Калі чорны кот перабяжыць нам дарогу, дык можам спадзявацца толькі дрэннага, сустрэне нас няшчасце, а ўжо сама менш нейкая непрыемнасць і то неўзабаве.

У Аўстрыі, як толькі ўбачаць камінара, ды адразу хапаюцца за гузік і трымаюць яго, пакуль не перабяжыць кот або сабака. Ёсць пераканаине, што чатырохногія ахоўваюць нас ад няшчасцяў. Яно вядзе сваю радаслоўную са славянскіх традыцыяў.

Аказваецца, што на цэлым свеце людзі чхаючы засланяюць нос. Прысутныя і іншыя асобы зычаць ім здароўя або выказваюць стандартныя фразы.

У Афрыцы існавала і існуе па сённяшні дзень пераканане, што падчас чхання да цела чалавека ўнікае або яго пакідае нейкі добры або злы дух. У залежнасці ад гэтага сам чхаючы або пры тым прысутныя выказвалі закляцці адпуджваючыя злыя духі і прывітанні для добрых.

А ў нас? Здаўна распаўсюджаны былі варажбы з чхання. Для прыкладу, важныя былі толькі чханні перад снеданнем. І так: у панядзелак чхалі на навіну, у аўторак — на трунак, у сераду — на госця, у чацвер — на памерлага, у пятніцу — на смутак, у суботу — на падарожжа, у нядзелю — на спатканне.

Прыдавалі значэнне таксама да святочнага чхання. Калі, напрыклад, на куццю (напярэдадні Каляд) першы чхне мужчына, у гаспадарцы карова ў гэтым жа годзе прывядзе бычка. Калі жанчына — ялоўку.

Сёння ўжо ніхто ў такія варажбы не верыць, хоць часам любяць некаторыя імі „пазабаўляцца". Між тым асталося нам вось гэтае „на здароўе", так як у Італіі „на шчасце", сярод іспанцаў „жыві", мусульманаў — „хвала Аллаху", або сярод індзейцаў — „няхай цябе Сонца сцеражэ"... Ну дык вось і засталіся такія вышэйзгаданыя „чханыя зычанні".

*Састаўленне зрабіў Янка Целушэцкі*

<u>З былога</u>

## Як удасца...

Было гэта тады, калі ў нашай краіне бушаваў крызіс. Памятаеце? Тыя даўжэзныя чэргі за прадуктамі і прамысловымі таварамі?

Генік выбраўся зранняя „на палянанне". Купляў булачкі, малако, хлеб, сыр. Меў шчасце! Калі заходзіў у якую краму, то чарга траплялася яму нядоўгая, і прадукты былі.

Сябра Геніка Антось не заўсёды змог купіць што трэба, хаця хадзіў у тыя ж, што заўсёды, крамы.

— Скажы ты мне, Генік, адкуль гэта бярэцца? Чаму я часта вяртаюся з пустымі рукамі?

— А калі ты ідзеш у краму?

— Бягу адразу, як толькі адчыняюць. Стаю ў даўжэзнай чарзе і цярпліва чакаю, калі ўжо стану ля прылаўка. Вядома, людзей многа, а яшчэ даходзяць з тае другое, „лепшае" чаргі. Калі куплю, а калі бачу, што не хопіць для мяне, вяртаюся дахаты з пустымі рукамі...

— Дзіва! Я заўсёды пасняваю. Хаця мне пазней чым табе трэба з'явіцца на працы. Я не іду рана, а траха пазней. Тады больш людзей адыдзе, і трачу менш нерваў. Так і ты рабі.

На другі дзень Генік устаў раней, чым заўсёды. Адразу пабег у краму. Пашанцавала! Быў адзіным кліентам!!! Аглянуўся, а за ім на працягу пару хвілін ужо назбіралася невераґодная таўпа людзей! На канцы таго тоўстага „вужа", які шыпеў, гыркаў, кідаў матам, соп, тузаўся і хваляваўся туліўся з сеткай Антось.

— Гэта такое „пазней", Генік?! — застагнаў Антось, калі Генік прабаваў прабрацца да дзвярэй з поўнай сеткай, закіданы злоснымі і зайздроснымі позіркамі.

— Ай, Антось, тут няма ніякага рэцэпта! Гэта ж барацьба за жыццё, як у пушчы! Калі ўдасца, упалюеш!

— Відаць, слабы я звер, калі мне не ўдаецца! — заскрыгітаў Антось зубамі і прыціснуў да грудзей пустую сетку з пукатым кашальком.

Аўрора

## ДВУХЛІТАРНАЯ КРЫЖАВАНКА

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | 2 | | 3 | | 4 |
| | ■ | 5 | 6 | | ■ | |
| 7 | 8 | ■ | | ■ | 9 | |
| | 10 | | | | | |
| 11 | | ■ | | ■ | 12 | 13 |
| | ■ | 14 | | 15 | ■ | |
| 16 | | | | 17 | | |

**Гарызантальна:** 1. белая вадкасць, 3. расейская грашовая адзінка, 5. сталіца Татарстана, 7. мера інерцыі цела, 9. частка доўгу, 10. поручні з фігурнымі слупкамі, 11. змолатае зерне, 12. сталіца Латвіі, 14. шэраг арак, 16. раздзяленне на часткі, 17. асвятляльны прыбор.

**Вертыкальна:** 1. сталіца Бахрэйна, 2. какаінавы куст, 3. усходы жыта, пшаніцы, 4. палёгка, 6. стачка, страйк, 8. хатняя жывёла, 9. італьянскі дзіцячы пісьменнік, 11. метад вайсковага навучання, 13. вырабляе пасуду з гліны, 14. гербавая птушка, 15. іспанскі сюррэаліст.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 50 н-ра:**
**Гарызантальна:** банкір, навела, Анкара, Наса, смак, крыжаносец, сват, цела, матыка, карона, Сапега.
**Вертыкальна:** барана, Ірак, нара, лайдак, кастаньеты, Сакрат, смецце, сведка, Ладога, мана, каса.

**Кніжныя ўзнагароды высылаем Лявону Федаруку з Рыбалаў і Аляксандру Дабчынскаму з Беластока.**

## ПАРНАСІК

### Студзень

Месяц студзень,
Пачатак новага года.
Дзе мы будзем? —
Чакае ўсіх прыгода.
Пакуль у хаце
Будзем грэцца,
Сястра і браце,
Песня разальецца.
Калядная аб Хрысце,
Яго славе нараджэння,
Што больш расце,
І цуд збавення.
Важны месяц года —
Святочныя дні!
У Хрысце свабода,
Паспяшым да цудоўнай радні.
Радня Хрыстова —
Хрысціяне.
Святое Слова і гонар:
Мы, беларусы — славяне.
Студзень сярэдзінай зімы;
Дні надалей марозныя.
Шапку ў хаце здымі:
Жывуць у ёй блізкія, родныя.
І ў чужой хаце здымай —
Для пашаны!
Людзей любі, паважай,
Каб у сэрцы не было маны.
Нават птушкі сваім спевам
Праслаўляюць Хрыста-дзіцятка
І вецер сваім павевам
У курсе Божага парадку.
І ў дні такія
Мароз не страшны.
Мы больш жывыя
І чалавек разважны.
Дні даўжэюць, —
Дасканала!
Нашы сілы мацнеюць,
Дык Богу слава!

**Мікалай Панфілюк**


Ніва

"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 421-033.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

Рэдагуе калектыў:
Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міраловіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**
**Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".**
Старшыня Праграмнай рады — Валянцін Сельвясюк

Prenumerata.
1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1996 r. upływa 20 lutego 1996 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał wynosi 9,10 zł (91 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.
Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,30 zł (13 000 st. zł), a kwartalnie — 16,90 złotych (169 000 st. zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

# Леў і Каняка

*(байка)*

Каняку запалохаўшы да скону,
Леў везці загадаў сваю персону
І паказаў — куды.
— Каб горшай не было бяды, —
Сказаў сабе Каняка і павёз
Даволі борзда цяжкі воз.
Ды раптам чуе за дугой:
— Стой, недарэка! Стой!
Вязеш зусім ты не туды.
— Але ж казаў спачатку ты...
— Маўчы, разява, табе кажуць,
Ёсць без цябе каму разважыць.

Павёз. Ды крык з калёс нясецца:
— Стой, дурань! Не туды,
здаецца...
Змяніў кірунак. Зноў не тое.
Ну проста ліха, ды якое:
Куды ні ступіць — не туды.
Змарнеў Каняка ад бяды.
-----------------------------
Загнуцца можна у дарозе,
Як дурань-кіраўнік на возе.

**А. Барэйка**







Малюнак М. Гіргеля

## СМЕХ У САНАТОРЫІ

**"Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка**

У турме дзень адведзін. Вартаўнік кліча Грышу:
— Прыйшла ваша жонка і чакае, каб пагаварыць з вамі.
— Жонка? Якая?
— Як гэта — якая?! Гавару выразна — ваша жонка!
— Ну так, толькі я сяджу за бігамію.

* * *

Пакупнік да прадаўшчыцы:
— Хачу купіць маёй сяброўцы рукавічкі, ды забыў размер...
— Гэта дробязь, параўнайце, — прадаўшчыца падае сваю руку.
Мужчына патрымаў крыху тую руку і адзываецца:
— Яшчэ хацеў бы купіць станік і майткі...

* * *

Пажылы мужчына ажаніўся з маладою дзяўчынай. Пасля шлюбнай ночы маладуха ў захапленні:
— Можна будзе, каханы, так часцей?
— Напэўна! Ёсць такія майстры, што робяць гэта тры-чатыры разы ў год...

* * *

Муж вяртаецца позні́м вечарам дадому. У дзвярах вітае яго жонка з качалкай і кулакамі:
— Ты, лайдак, маеш шмінку на твары!
— Гэта не шмінка, гэта кроў. Збіў мяне самаход.
— Ну, маеш шчасце...

* * *

Муж вярнуўся раней з працы дадому і неспадзявана застаў у пасцелі жонку, голую.
— Што з табою, каханая?
— Дрэнна сябе адчуваю, дык лягла. Хіба я хворая.
Муж знімае плашч і хоча павесіць у шафе.
— Не адкрывай шафы, — крычыць жонка, — бо там страшыць!
— Не пляці дурнотаў, — супакойвае муж. Адчыняе шафу, а там стаіць голы сусед.
— Ну, ведаеш, суседзе, гэтага па табе не спадзяваўся. Жонка хворая, а ты яе яшчэ страшыш.

* * *

Муж вяртаецца з працы і застае жонку ў падазронай сітуацыі з незнаёмым мужчынам.
— Пазнаёмцеся, — гаворыць жонка, — гэта мой муж, а гэта мой сябра. Вы сабе пагутарце, а я пайду вызваць хуткую дапамогу.

# СУПЕР

Я вырашыў катэгарычна: калі народ Украіны прагаласуе за сваю незалежнасць — неадкладна жанюся. Трыста гадоў няволі зрабілі мае гены рабамі. На волі не выжыву. Дык вось... Зноў няволя.

З практыкі вядома, калі хочаш згубіць спакой, вазьмі сабе маладую жонку. Або прыдбай аўтамабіль. Мяне лёс ашчаслівіў і тым, і іншым. Цяпер пастаянны канфлікт. Жонка хоча ездзіць. Аўтамабіль — не можа. Я, замест таго, каб ляжаць у абдымках каханай, увесь свой час пралежваю пад аўтамабілем. Яна час ад часу бачыць толькі мае ногі. Ад ступні да костачкі. Я час ад часу бачу толькі яе ногі. Ад ступні да калена. І чую ўсхваляваны голас:

— Дакуль?!

Пакуль Украіна не дасягне ўзроўню Буркіна Фасо. Або хаця б Гвінеі Бісау. Пакуль не будзем жыць хаця б так, як семдзесят чатыры гады назад жылі папуасы. Жанчына ад мужчыны адрозніваецца тым, што спачатку крычыць, а тады слухае. Мужчына спачатку слухае, а пасля... робіць сваё.

Вось яна крычыць. Я раблю сваё... Слухаю. Аналізую.

Ці правільна зрабіў, што жаніўся? Элізабет Тэйлар у шэсцьдзесят гадоў выйшла замуж у сёмы раз. За саракагадовага. Зоркам, якія зззяюць, патрабуецца крыніца энергіі. Крыніцы энергіі патрэбны дастатак. Ясір Арафат заўсёды хваліўся: „Я жанаты з рэвалюцыяй. І толькі раз". На 62-годзе ён жаніўся ў другі раз. Узяў 28-гадовую прыгажуню. Я з рэвалюцыяй жанаты не быў. Я быў у шлюбе з Тосікам.

Жанчына, як самалёт. Калі падаеш, то разам з ёю.

У гэты „самалёт" цябе падсаджвае лёс. Якім асцярожным ты б не быў перад „падсадкай", як уважліва не разглядаў бы „шасі", хвост і крыллі, садзішся і ляціш. Бо гэта твой рэйс. Лёс выдаў табе на яго білет. І як ты не старайся, нічога не зменіш. Як казаў адзін разумны чалавек: „Ну, праб'еш галавою сцяну. Але што будзеш рабіць у суседняй камеры?" Калі я рыхтаваўся да свайго першага сямейнага палёту, мяне папярэджвалі:

— Не ведаеш ты, што калі мужчына твайго ўзросту жэніцца на маладзенькай, ён бярэ жонку для суседа.

Я тады хвацка адказаў:

— Ведаю. Але чарнагорская прымаўка кажа: „Лепш есці маладое кураня ўдваіх, чым грызці старую курыцу аднаму".

На жаль, лёс распарадзіўся так, што мне не прыйшлося ні есці, ні грызці. Я толькі аблізваўся. Для Тосіка я быў слупом, да якога яна прывязалася, каб іншыя ведалі, дзе яе шукаць. На гэты раз я перахітрыў лёс. Мне ўдалося катапультавацца. А Тосік лётае і цяпер. З маім дублёрам. У мяне такое ўражанне, што яго зачалі ў прабірцы, а выхоўвалі ў пансіянаце для гарылаў. У яго нібы няма ні ілба, ні вачэй, ні твару. Ёсць толькі нос. Але Тосік ім зачараваная. Яна кажа, што мужчына прыгожы на выгляд не тады, калі ў яго ўсяго па трошку прыгожага, а калі нешта адно важкае.

Пасля ўдалага катапультавання я думаў, што ўжо ніколі не асмелюся лётаць. Тым больш у мяне ў апошні час алергія на касметыку. Чхаю за пяцьдзесят метраў.

Але занесла мяне на конкурс прыгажунь. „Цыб-цыб, цыб-цыб, цыбцыб". „Віцэ-міс", „супермадэль". А пасля абавязкова толькі ў купальніках.

Калі б я выйшаў на сцэну раздзеты, усе прызы былі б мае. Усе фундатаршы падалі б перада мною...

Як мала чалавеку патрэбна для шчасця! Убачыць другога чалавека голым.

Адкуль у нас так шмат прыгажунь? Бо ёсць стымул. Памахай перад маім носам норкавай шубкай, я табе за тыдзень Апалонам стану. Я буду кожны дзень гумовым таўкачом чухаць спіну. Парыць ногі. І маску з яек класці на морду... Каб не было маршчын. Каб усмешка ў мяне была як бліскавіца. Каб у кожнага члена журы ў вачах пацямнела. І галава пайшла кругам. Мой сябра Віця Царапкін, сын брокера з 1917 года, заўважыў:

— Добра, калі б на членах журы, як і на прыгажунях, былі нумаркі. І яшчэ надпісы: „Дон-Жуан з 1930 года", „Бабалюб з 1940 года", або проста „Супер-лавелас". Тады ведаў бы каму ўсміхацца...

Я менш глядзеў на прыгажунь, а больш сачыў за членамі журы. Божа праведны! Які кантраст! Аблыселы на чужых падушках. Распаўнелы ў чужых пярынах. Сядзяць знаўцы прыгажосці і юнацтва. Супер-эксперты. Дон-Жуаны — эстэты. Усе ведаюць, якой павінна быць прыгажуня. Нібыта яны ўсё жыццё сустракаліся толькі з прыгажунямі. Сядзяць і пажыраюць вачамі тое, што ўжо не могуць узяць зубам. Адзін так шырока разявіў рот, што ўстаўная сківіца выпала. Другі, які ў салодкай дрымаце лавіў кайф, падумаў, што нешта згубіла прыгажуня. Падняў сківіцу і, з рэверансам старой клячы, працягнуў яе дзяўчыне на сцэну. Тая, як убачыла зубы, страціла прытомнасць. З залы на сцэну выскачылі дванаццаць лекараў. А калі б старая жанчына ўпала? Ці згадаў бы хоць адзін з іх пра клятву Гіпакрата?

На гэтым конкурсе я нагледзеў сваю прыгажуню. І паўтарыў подзвіг Ясіра Арафата. Цяпер не маю ні асабістай волі, ні спакою, ні жонкі. Яна цяпер — супер-мадэль. А я — супер...

**Яўген Дудар**

*Пераклаў на беларускую мову Валерый Бабей.*

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка! Сардэчныя словы прывітання. Звяртаюся да цябе за шчырай парадай. Хаця мне ўжо дваццаць адзін год, я ўсё яшчэ не маю сталага кавалера. Сям'я мая нагадвае, што мне пара замуж. А ў мяне да гэтага часу нічога не ўлажылася. Звяртаю на сябе ўвагу розных хлопцаў. Сярод іх былі: абітурыенты, інжынеры, студэнты, магістры, салдаты, а нават адзін жанаты (як пазней выявілася). Я пішу, як бачыш, пра хлопцаў інтэлігентных, але мне здаецца, што я не ніжэй іх — я студэнтка Варшаўскага ўніверсітэта.

Хлопцы звяртаюць на мяне ўвагу, але што з таго, калі ў мяне зайздросныя сяброўкі. Яны або адаб'юць мне майго ўхажора, або зусім яго да мяне не дапускаюць. У апошні час я мяркую, што шчасце ўжо тут-тут.

А было так. З зайздроснымі сяброўкамі была я на імянінах у сябра. У пэўным моманце адчыніліся дзверы і ў пакой увайшоў Ён (з сябрам Алікам). Сэрца маё забіла мацней, я выпіла на рызыку чарку віна і, паставіўшы ўсё на адну карту, пачала дзейнічаць. Большых клопатаў я з Колем не мела, у даволі кароткім часе мы змянілі памяшканне на больш зручнае. Я думала, што майму шчасцю не будзе канца і сям'я задаволіцца нарэшце. Аднак на другі дзень, калі я яшчэ жыла падзеямі мінулай ночы, сяброўкі адкрыта мне заявілі, што з Колем будзе таксама, як з Пецем, Іванам, Віцем. Што мне застаецца ў такой сітуацыі рабіць? Я ўпэўнена, што на гэты раз яны зробяць сваё і я зноў буду без хлопца.

Лена

Даражэнькая „Ленка"! Студэнт ты, бадай, а не студэнтка, а мо і пісаў ты не адзін. Ну, сам падумай, якая дзяўчына пачне свой ліст ад сказа: „Сардэчныя словы прывітання"?! Яна напіша больш мякка, пяшчотна, у яе словах чуваць будзе журба і боль, калі ўжо вырашыла напісаць Сэрцайку і прасіць парады. А ты пішаш так канкрэтна і суха, як не напіша ніводная дзяўчына.

Ну, але няхай сабе і захацелася табе пасмяяцца з сяброўкі — пустой, несур'ёзнай, недарэчнай, жыццёвай няўдачніцы, я б сказала, нават прымітыўнай. Дык усё ж трэба думаць, што ніхто пра сябе так кепска не піша, пакідаючы гэту прыемнасць іншым.

Але дапусцім, што ты ўсё ж — дзяўчына. Тады справа становіцца цалкам яснай, чаму не ўдаецца табе знайсці сабе хлопца. Калі ты дзяўчына, дык слухай!

Студэнтка, яна тым больш не павінна кахаць розных хлопцаў без разбору. Табе, аказваецца, усё роўна, ці ён яшчэ студэнт, ці ўжо магістр, а можа быць салдат і нават жанаты чалавек. Абы быў інтэлігент! А рэшта — для цябе няважная. Няўжо ўсё шчасце ў адукацыі? Трэба ж яшчэ мець галаву на карку!

Скажы, даражэнькая, а калі ж ты паспела начаўпці столькі ў сваім маладым яшчэ жыцці?! Ты маеш прэтэнзіі да сваіх сябровак, што яны адбіваюць у цябе хлопцаў, а не падумала пра тое, што мо ты сама адбіваеш у хлопцаў ахвоту да сябе. Хуткая ты, быццам той „Мерседэс". Шкада, што не напісала нам, як гэта ты „дзейнічаеш", намякнула толькі, што спрытна „памянялі" памяшканне, бо, пэўна, там былі варункі, каб пераспацца. Некаторыя хлопцы любяць такіх дзяўчат, але ніколі з імі, на жаль, не жэняцца.

Дык маюць, бадай, рацыю твае сяброўкі, калі прадбачаць, што і з Колем будзе таксама, як з Пецем, Іванам, Віцем.

Лена! Калі ты — хлопец, даруй неразумнай дзяўчыне. Мо яна (ці падобная ёй) прачытае і стукнецца ў галаву. Пераспаўшыся з такой дзяўчынай у першы вечар знаёмства, хлопец часцей за ўсё яе нават не памятае. Таму павінна яна змяніць характар, калі хоча выйсці замуж.

**Сэрцайка**